
Бацюты на старых здымках →5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Кніжка Анджэя Пачобута →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3000) Год LVIII Беласток, 10 лістапада 2013 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Размова з праваслаўным архіепіскапам Лодзінскім і Познаньскім СІМАНАМ (Раманчуком), першым па мітрапаліце Саве архіепіскапам Праваслаўнай царквы ў Польшчы

# Проста цягнула мяне ў царкву

**— Шчыра дзякуем Вам, уладыка, за сардэчныя віншаванні, якія Вы даслалі з нагоды святкавання намі юбілею «Нівы». Мы рады, што Вам, пастаяннаму чытачу нашай газеты, блізкія беларускія справы і лёс беларусаў. Калі летам гэтага года Вы пабывалі ў Рэспубліцы Беларусь з нагоды святкавання 1025 гадавіны Хрышчэння Русі, наведалі Вы ў Мінску тыя месцы, дзе Вы вучыліся, жылі і адпачывалі, будучы студэнтам беларуска-рускай філалогіі. Якія думкі кружыліся тады ў Вашай галаве?**

— Адзін раз чалавек бывае маладым і таму слязінка закруцілася ў маім воку, калі я пасля так доўгага перапынку прайшоўся па дарозе, па якой хадзіў у Мінску з інтэрната на заняткі. Мяне нават упусцілі ў пакой у інтэрнаце, дзея я жыў, а з акна маёй гасцініцы было відаць дахі былога філфака, дзе я вучыўся, і маёй бібліятэкі, дзе я многа займаўся. Я ўспамінамі вярнуўся ў гады маёй студэнцкай маладасці, ад якой засталіся добрыя і мілыя ўспаміны. У Мінску я правёў самыя шчаслівыя гады майго жыцця, а тады вучыліся там студэнты з розных краін, розных нацыянальнасцей і розных колераў скуры. І не было паміж намі ніякай варожасці. Калі паміж студэнтамі былі нейкія недаразуменні, дык хутчэй за ўсё з-за дзяўчат.

**— Што спрычынілася, што Вы, выпускнік Педагагічнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім, рашыліся парцягваць адукацыю ў сталіцы Беларусі, Мінску?**

— У Мінск трапіў я пасля вялікага адбору. Я быў адным з найлепшых выпускнікоў Педагагічнага ліцэя ў Бельску, паспяхова справіўся з ваяводскім экзаменам і мяне накіравалі здаваць экзамены, якія кваліфікавалі на вучобу ў замежных навучальных установах, а папярэджвалі іх адукацыйныя курсы, у якіх прыняло ўдзел 250 чалавек. Я паспяхова справіўся з экзаменамі, атрымаў найлепшы вынік з ліку выпускнікоў з Беластоцкага ваяводства і трапіў у лік 180 студэнтаў, якіх выслалі на вучобу ў замежныя вышэйшыя ўстановы. Я і тры дзяўчаты, усе праваслаўныя, трапілі ў Мінск. Думаю, што гэта не было выпадковым, што мяне выслалі туды з улікам, што, вярнуўшыся ў Польшчу, выкарыстаю тут маё веданне беларускай і рускай моў.

**— Ці будучы студэнтам Вы спатыкаліся з беларускімі пісьменнікамі, наведвалі беларускія тэатры і іншыя ўстановы культуры? Якое было тады жыццё студэнтаў пасля заняткаў?**

— Мы, студэнты, хадзілі тады ў тэатр, оперу. Я быў лепшым танцорам, хадзілі мы таксама на патанцоўкі. Жыў я ў адным пакоі з Нілам Гілевічам. Тады на філфаку вучыліся з намі Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін. Мы спатыкаліся на лекцыях і сустрэчах з Міхасём Лыньковам, Кандратам Крапівой, Якубам Коласам, ці Іванам Навуменкам. Вядомы мне былі таксама Іван Мележ і Алег Лойка. Быў гэта цудоўны час, калі можна было непасрэдна вучыцца беларускай літаратуры ад яе самых вялікіх стваральнікаў.


Фота Аляксея МАРОЗА

**— Калі Вы ў 1955 годзе пачалі вучыцца ў Мінску, быў гэта ўжо пасясталінскі час і паслабеў пераслед звычайных людзей, але пачаўся хрушчоўскі перыяд, калі ў Савецкім Саюзе ўзмацнілася атэізацыя грамадства. Ці Вы маглі хадзіць у царкву, каб памаліцца?**

— Пры Хрушчове закрываліся цэрквы. На Беларусі застаўся толькі адзін епіскап. Я хадзіў маліцца перадусім у Петра-Паўлаўскі сабор. Думаю, што тамашняя бяспека ведала аб гэтым, але хутчэй за ўсё махнулі на мяне рукой і падумалі, што не будуць займаць палякам з Польшчы. Аб гэтым не гаварыў я студэнтам, але некаторыя з іх пэўна дадумваліся, чаму я знікаў з інтэрната. Калі адна з маіх сябровак убачыла мяне ў царкве, была здзіўлена, што я прыехаў з Польшчы і не з'яўляюся католікам, толькі праваслаўным.

**— Вы нарадзіліся ў 1936 годзе ў Гушчэвіне, непадалёк ад Нараўкі і там правялі ранняе дзяцінства. У час вайны вымушаны былі жыць па-за родным домам, бо немцы высялялі жыхароў лясных пасяленняў, апасаючыся, што яны будуць дапамагаць партызанам.**

— Я моцна запамятаў цяжкі час вайны. Цяпер яшчэ вяртаюцца ўспаміны гэтага перыяду, з крыкам немцаў, вельмі гучным брахannem сабак і вялікім пажарам. Дзень перад тым, як немцы прыйшлі высяляць Гушчэвіне, нарадзілася мая сястрычка і мы апасаліся, ці яна і мая мама не памруць у дарозе. Аднак трапіўся і добры чалавек у нямецкім войску, які ўмеў гаварыць па-польску. Убачыўшы нованароджаную сястрычку, дазволіў узяць нам з сабой найлепшую карову, як пасля аказалася адну на вёску, і даў нашай вялікай сям'і дадатковы воз, каб маглі мы больш узяць з сабой. Спачатку мы жылі ў Паўлах, а ў Рыбалах ахрысцілі сястрычку, бо апасаліся, што можа памерці, і крыху жылі ў сваякоў у Навасадах. Пасля, ажно да вызвалення савецкімі войскамі, пражывалі ў Дубінах, дзе немцы расстрэльвалі выпадковых жыхароў з-за ўзрывання партызанамі нямецкіх цягнікоў. Чужыя людзі, у якіх мы жылі, сталі мне радней, па-сённяшні дзень, так добра нас прынялі. Калі мы пасля вайны прыехалі адбудоўваць спаленую Гушчэвіну, на вуліцы раслі зелле і грыбы, а па панадворках поўзалі вужы. Перажыўшы так многа, у нас, маладых хлопцаў і дзяўчат, была пасля вайны вельмі вялікая прага здабываць адукацыю, вучыцца і вучыцца. Я вельмі любіў чытаць і спачатку чытаў дома нават пры запаленай лучыне, а пасля ўжо пры нафтавай лямпе.

**— Здабыўшы вышэйшую адукацыю, Вы вярнуліся ў Польшчу і сталі працаваць у Агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове настаўнікам беларускай, расійскай і лацінскай моў.**

— Калі я вярнуўся ў Польшчу, добра ведаў беларускую мову. Тады Георгій Валкавыцкі запрапанаваў мне работу журналіста ў «Ніве», якая толькі станавілася на ногі. Прапанавалі мне таксама працаваць журналістам на радыё. Аднак мяне цягнула да педагагічнай працы, якой я займаюся па сённяшні час. Спачатку беластоцкі куратар, родам з Нараўкі, запрапанаваў мне папрацаваць паўгода ў ліцэі ў Міхалове, дзе патрэбны быў настаўнік латыні. Я стаў вучыць там яшчэ беларускай і расійскай мовам, але так палюбіў вучняў класа, якога стаў выхавацелем, што рашыўся давесці іх да канца вучобы ў ліцэі, а пасля накіраваў хлопцаў і дзяўчат у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Зараз мае вучні выконваюць розныя прафесіі і трымаюць са мной кантакт. Тады ў Міхалове нават і католікі гаварылі на беларускай гаворцы, вельмі падобнай да літаратурнай беларускай мовы, і ўсе жылі ў згодзе. Калі я перайшоў працаваць настаўнікам Праваслаўнай семінарыі, таксама стаў там вучыць, між іншым, беларускай і расійскай мовам, якія лічыў сваімі мовамі.

**— Аднак Вы не парвалі кантактаў з беларускім асяроддзем Беласточчыны.**

— Я думаю, што і сёння я яшчэ «белавежац», я ж лічу сябе беларусам. Георгій Валкавыцкі заахвочваў мяне пісаць па-беларуску і я стаў пісаць апавяданні, якія друкаваліся ў 1960-1970-х гадах. Мае апавяданні перасталі друкавацца ў канцы семідзесятых гадоў, калі я стаў пісаць на багаслоўскія тэмы. Але я не перастаў пісаць па-беларуску і складваю свае апавяданні. Зараз у мяне ёсць больш за пятнаццаць

працяг ☞ 4





# Пажыццёвае зняволенне

Пакуль праваабаронцы ўсёй Беларусі нястомна змагаюцца за адмену смяротнага пакарання, ёсць значная групоўка надзвычай уплывовых людзей, якія ўжо даўно выступілі за пажыццёвае зняволенне. І выбралі яго найперш для сябе. Гэта асаблівы тып самапакарання — зняволенне выбранае для сябе. Зняволенне ўладай. Зняволенне, ад якога не вызваліць ніхто і нішто.

Днямі аўтарытэтны амерыканскі часопіс „Forbes" назваў кіраўніка Расіі Уладзіміра Пуціна найбольш уплывовым чалавекам свету. Трэба меркаваць — гэта вяршыня яго палітычнай і чалавечай кар'еры. Такое ўганараванне надзвычай задаволіць маскоўскага ўладара, у гэтым няма сумневу. Уладзімір Пуцін ужо выйграў для сябе чэмпіянат свету па футболе, выйграў для сябе алімпійскія гульні, цяпер вось такое прызнанне. Выбар „Forbes", дарэчы, падаецца слушным. Ну сапраўды, хіба можа амерыканскі прэзідэнт Барак Абама быць на вяршыні гэтага рэйтынгу!? Трапіўшы на вышэйшую пасаду сваёй краіны, сацыяліст па светаглядзе Абама проста мучыцца, такое ўражанне, што цэлы час у разгубленасці і не ведае, што рабіць у няпростых варунках і выкліках рэчаіснасці. Перыяд яго кіравання — гэта такі амерыканскі „брэжнеўскі застой". Але дакладна вядома, што Абама праз два гады адмучыцца і будзе сядзець дзе-небудзь на сваёй віле ці ранча. У горшым разе пераўжыве можа пару якіх дробных непрыемных судовых працэсаў. А яшчэ праз пяць гадоў пра яго ўсе забудуцца, зрэдку ўспамінаючы перыяд няздарнага кіравання афраамерыканца. Іншая рэч Уладзімір Пуцін — само ўвасабленне ўпэўненасці, непахіснасці і перакананасці. Але бяда ў тым, што далей няма куды, далей толькі расчараванні. Толькі ўніз, толькі ў яшчэ большую кабальную залежнасць ад сваёй бязмежнай улады, ад неразвязальнасці тых праблемаў, што нібы снежная лавіна абрынаюцца і будуць абрынацца на шматнацыянальную расійскую імперыю.

Цяжкае гэта бярэмя — кіраваць пажыццёва. У тых, хто зняволены ў турмах Азербайджана, Беларусі, Узбекістана, Расіі, Туркменістана, Казахстана па палітычных матывах, ёсць надзея выжыць фізічна і выйсці на волю, ёсць цвёрдае перакананне, што іх імёны застануцца ў гісторыі сваіх народаў як прыклад ахвярнасці і сумленнасці, ёсць маральная і іншая падтрымка аднадумцаў і блізкіх. А вось у кіраўнікоў гэтых таталітарных дзяржаў надзеі няма ніякай. Альбо трыбунал у Гаазе, альбо фатальнае кіраванне да канца дзён сваіх — і там, і там пажыццёвае зняволенне, як не круці. І скажыце цяпер — ці хто з вас хацеў бы апынуцца на іх месцы?! Не дай Бог, як кажуць. Золата і мармур, валютныя рахункі ў розных банках свету, шыкоўныя дываны, скураныя канапы, раскошныя палацы і суперсамалёты, квадратнатварыя дзецюкі ў ахове, паслужлівыя лёкаі ў працоўных кабінетах і рэзідэнцыях, даўганогія маладыя прыгажуні ў атачэнні — гэта ж толькі адзін бок уладарнага медаля. А з іншага — „крывавыя хлопчыкі" ўваччу па начах, усюды мроіцца змовы і здрады, снайперы на даху, бесперапынны галаўны боль па сваіх незлічоных скарбах і багацця. Няма ні радасці сяброўскай бяседы, бо сяброў няма, ні водару лесу, бо на прыроду нельга, ні радасці сонечнаму дню, бо яны перакананыя, што гэта яны і ёсць сонца для сваіх народаў. А тут яшчэ нашчадкі, родныя дзеткі падкідваюць праблемаў раз-пораз, як, прыкладам, дачка узурпатара Узбекістана Іслама Карымава...

У такім жа пажыццёвым зняволенні не толькі першыя асобы дыктатарскіх дзяржаў, але і іх бліжэйшыя памочнікі, выканаўцы іх волі, тыя, хто мог бы не ўдзельнічаць у гэтым, але паддаўся спакусе ўлады і багаццяў. Яны таксама да канца сваіх дзён будуць у страху. Страх — іх галоўны жыццёвы спадарожнік, ён паралізуе іх волю і чалавечыя якасці. Страх, бо ўсё патаемнае рана ці позна стане вядомым і відавочным.

Мне іх шчыра шкада, асудзіўшых самі сябе на пажыццёвае зняволенне, тых, хто мог бы прынесці славу, гонар і дабрабыт свайму народу, а застануцца ў гісторыі і людской памяці найперш сваімі чорнымі справамі і зладзейскімі ўчынкамі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Гідра бюракратыі



Рэальнай атрутай любога грамадства з'яўляецца шматгаловая гідра бюракратыі. Адарвеш ёй галаву, а ўжо на яе месцы расце некалькі новых: устаноў, філіялаў і іншых адміністрацыйных клонаў. З бюракратычнай рэпрадукцыяй не даюць сабе рады разленаваныя дэмакратычным выбарам урады, ні тыя аўтарытарныя, ставячыя сваіх грамадзян па стойцы „смірна" абвесткамі гіперактыўных дэкрэтаў. Ні тое, ні другое не можа абысціся без арміі чыноўнікаў, адміністратараў, кансультантаў і саветнікаў, сакратароў, інспектараў і іх кантралёраў. Калі ў дзяржаве ёсць здаровы лад, захоўвае яна правільны баланс паміж неабходнасцю выканання грамадзянскіх абавязкаў да сябе і аховай свабод і правоў усіх грамадзян. У гэтым выпадку бюракратычная балячка не знаходзіць для сябе пажыўнага рэчыва, і па вялікай частцы чэзне. А рэзкае павелічэнне дзяржаўнага апрата з'яўляецца сігналам, што дзяржава трашчыць па швах. І так ёсць у той час, калі адносіны паміж дзяржавай і кіруючымі і кіраванымі становяцца ўсё менш яснымі. Гэта адбываецца, калі ролю дзяржавы бярэ на сябе аўтарытарны рэжым, што прыводзіць да збояў у зносінах паміж ёй і грамадскасцю. Тады ролю пасрэдніка прымае бюракратычны апарат. Хоць ён з'яўляецца пасрэднікам ад імя дзяржавы, але гэта не дзяржава — як заўсёды атрымліваецца — раздзяляе пасады і бенефіцыі, але актуальная ўлада. І такім чынам гэта чыноўнікі маюць справу з аднабаковым пасрэдніцтвам, якое аснавана на эканоміцы часовага прыбытку без уліку ўласных выдаткаў на яго. Прыбытак можа быць толькі адзін: каб выжыць на гэтай пасадзе, якой распарадчыкам з'яўляецца ўлада. Што датычыцца коштаў, то яны неацэнныя па той прычыне, што ахопліваюць усё грамадства, якога яны з'яўляюцца неад'емнай часткай. Улада, калі цынічная, патрапіць скарыстацца гэтай слабасцю. Даючы ім дробную частку сваіх прэрагатыў, адначасова ставіць у залежнасць ад сябе абавязкам выканання сваёй волі, якая выяўляецца праз дадаткі да ўжо існуючых палажэнняў. Правілы, у рэшце рэшт, гэта адно, а дадаткі — іншае. Каб усё гэта зразумець, неабходна больш службовых асоб. І так нараджаецца гідра бюракратыі. Толькі што не ўдасца яе ліквідаваць шляхам міфічнага Геракла. Прыгадаю, што ён змагаўся з прашчуркай бюракратыі — лярнейскай Гідрай, забяспечанай самарэгенеруючыміся мазгавешкамі. Што адпала адцятая мячом галава, на яе месцы выраслі дзве-тры новыя. У рэшце рэшт герой перамог монстра такім чынам, што раны ад адсечанай галавы неадкладна спальваў агнём. А адну з іх, самую важную і несмяротную, закапаў жыўцом у зямлю. Ну вось — несмяротная...

Ніякая дзяржава не можа абысціся без чыноўнікаў. Але таксама няма такой дзяржавы, для якой адміністрацыйны апарат, які размнажаецца з хуткасцю віруса халеры, не будзе прадстаўляць праблемы. Можна было б з гэтага заключыць, што самай важнай функцыяй дзяржавы павінна быць барацьба з самой сабой. Упарадкаванне заканадаўчай логікі ў адпаведнасці так з патрэбамі дзяржавы, як і грамадзянскіх свабод, рэдукаванне састарэлых або бяздумных і часта самапярэчлівых палажэнняў і затым дэлегаванне для іх прававой і адміністрацыйнай апрацоўкі чыноўніцкіх кадраў, давяло б да вялікага палягчэння любому грамадству. Аднак канцэпцыя самаабмежавання дзяржавы на прыкладзе Злучаных Штатаў Амерыкі паказвае, што пабудова адкрытага грамадства з'яўляецца няпростай справай. Канфлікт паміж больш вынаходлівымі — багатымі і менш спрытнымі — беднымі расце. Апошнія ўсё больш настойліва патрабуюць ад урада большай долі ў размеркаванні сацыяльных выгод: больш лёгкага доступу да прызнаных (чытай: дарагіх) школ, павялічэння аховы здароўя і абавязковых законаў, накіраваных на беспрацоўе. Аднак выкананне гэтых патрабаванняў — у супярэчнасці з канцэпцыяй самаабмежавання дзяржавы, на што катэгарычна не згаджаюцца тыя першыя. Нягледзячы на сацыяльныя хваляванні, у зносінах паміж грамадзянамі і дзяржавай у любым выпадку не выступае пасрэднікам бюракратычны апарат. Не такая, вядома, яго функцыя. Прыклад былога СССР, разваленага знутры якраз партыйнай бюракратыяй даказвае, што дзяржава, якая занядбоўвае сваё самаабмежаванне, не мае ніякіх шанцаў на выжыванне.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Тадэвуш Мазавецкі

3 лістапада развіталіся мы з Тадэвушам Мазавецкім, першым прэм'ер-міністрам Трэцяй Рэчы Паспалітай. Ён памёр 28 кастрычніка ва ўзросце 86 гадоў. Быў ён кіраўніком урада са жніўня 1989 да студзеня 1991 г. Не чужымі яму былі праблемы ўсходніх суседзяў Польшчы, у тым ліку Беларусі, улічваючы, што ў перыяд яго праўлення Вялікі Брат у канвульсіях яшчэ спрабаваў падкрэсліць, што Польшча знаходзіцца ў сферы яго ўплыву. На пасадзе прэм'ер-міністра Тадэвуш Мазавецкі не дачакаўся Белавежскага пагаднення аб ліквідацыі Савецкага Саюза, якое ў снежні 1991 года было падпісана прэзідэнтамі Расіі Барысам Ельцыным, Украіны Леанідам Кучмам і лідарам незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам. Гэты апошні на Радыё Свабода ўспамінаў прэм'ера неўзабаве пасля яго смерці, адзначыўшы, што ён добра яго ведаў асабіста і неаднаразова сустракаўся з ім як кіраўніком урада свабоднай Польшчы:

— Мала каму пазней атрымалася зрабіць для Польшчы столькі, як Тадэвушу Мазавецкаму. Гэта быў выдатны, мудры палітык. Зразумеў, хто ён такі (Лешак) Бальцаровіч. Пры ім Польшча рушыла добрым шляхам, і сёння мы бачым вынікі. Мала каму пазней удалося зрабіць для Польшчы столькі, колькі Мазавецкаму. Яго спакой і вопыт, яго веданне таго, чым ёсць камуністычная сістэма, дазволілі шмат дасягнуць. Польшча страціла свайго вялікага сына.

Тадэвуш Мазавецкі не ўстрымліваўся ад выказвання меркаванняў і клопату за Беларусь. Паўтара года таму падчас канцэрта „Салідарныя з Беларуссю" ў Варшаве, гаварыў са сцэны: „Я прыйшоў для таго, каб разам з вамі выказаць салідарнасць з вольнай Беларуссю!". Гаварыў, што беларускі народ і яго культура вартыя развіцця, а яно з'яўляецца дарэмным толькі свабодных людзей. Запэўніваў беларусаў, што іх мара аб свабодзе павінна здзейсніцца, так як «свабода заўсёды пераможная»: „Не забудзем аб нашых братах у Беларусі. Мы ведаем што значыць дыктатура, мы ведаем, што свабода абазначае. Такім чынам, дэмакратычная апазіцыя, дэмакратычныя сілы павінны пераканаць народ і змагацца. Свабода павінна рана ці позна перамагчы".

У сваю чаргу пасля прагляду фільма „Жыве Беларусь!" у рэжысуры Кшыштафа Лукашэвіча, якога сааўтарам сцэнара быў Франак Вячорка, сказаў: „У дваццаць першым стагоддзі нельга дапусціць, што ў краіне ў цэнтральнай Еўропе не выконваюцца правы чалавека, грамадзянскія правы, дэмакратычныя правы".

На гэтае яго выказванне спасылалася беларуская апазіцыя. У адным са сваіх апошніх інтэрв'ю выказаў ён упэўненасць, што Беларусь будзе дэмакратычнай краінай. Тады падкрэсліў: „Наш прыклад настойлівасці, упартасці ў гэтым імкненні сведчаць аб тым, што ў рэшце рэшт дахо дзіцца да мэты, і я веру, што народ Беларусі таксама дасягне мэту". Былы прэм'ер кончыў гэтую размову вымаўленымі па-беларуску словамі: „Жыве Беларусь!".

Успамінаў Тадэвуша Мазавецкага таксама былы старшыня Саюза палякаў у Беларусі (1990-2000) Тадэвуш Гавін. Пазітыўна ацаніў яго дзеянні для палякаў у Беларусі. Разам з іншымі польскімі дзеячамі з тэрыторыі былога Савецкага Саюза быў прыняты прэм'ерам Мазавецкім у Варшаве: „Адбылася размова на тэму дапамогі палякам у СССР. Усё, што ён абяцаў, павольна рэалізавалася".

Лявон Баршчэўскі, былы дэпутат беларускага парламента ад імя апазіцыйнага Беларускага народнага фронту (1990-1995), у цяперашні час выкладчык нелегальнага ў Беларусі Гуманітарнага ліцэя памятаў яго як мудрага палітыка. Выказаў меркаванне, што першы прэм'ер некамуністычнай Польшчы быў адважным палітыкам, які ўзначаліў урад у складанай сітуацыі, таму што ён павінен быў лічыцца з тым, што Савецкі Саюз яшчэ існаваў:

— Ён быў у стане адказаць на гэты выклік і здолеў вывесці Польшчу на лепшы шлях, і ўжо наступным урадам было лягчэй.

Польскае агенцтва друку паінфармавала, што Баршчэўскі з Мазавецкім сустракаліся ў мінулым годзе, калі ён наведаў Польшчу з групай маладых людзей з Гуманітарнага ліцэя. Тадэвуш Мазавецкі на працягу дзвюх гадзін размаўляў з вучнямі і выкладчыкамі, адказваючы на пытанні. „Гэта была вельмі добрая сустрэча, хоць ужо тады ён быў не вельмі здаровы", — ацаніў Лявон Баршчэўскі. Як згадваў, Тадэвуш Мазавецкі заявіў тады, што не існуе ўніверсальнага сцэнарыя рэформ і самі беларусы павінны вырашыць, як іх правесці.

Не будзе хапаць Тадэвуша Мазавецкага таксама як чалавека, які меў поўнае маральнае права выказвацца і падказваць у пытаннях, датычных да недэмакратычных сістэм, у тым ліку пануючай у Беларусі, і які для шукаючых дэмакратычных рашэнняў быў сапраўдным аўтарытэтам.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Злажу з аўтобуса ў Юшкавым Грудзе, а там цяпер як у горадзе. Даўней у вёсцы быў адзін аўтобусны прыпынак — перад паветкай на прыцаркоўным пляцы. Цяпер жа прыпынкавых слупкаў многа: адзін па ветачцы ў Ялоўку, другі — па ветачцы ў Бандары,.. кожны ў нейкіх трыццаці метрах ад пакінутай мураванай паветкі. Я так сабе мяркую, што гэтая перастаноўка зроблена з думкай пра выгаду чакаючых аўтобусаў пасажыраў — каб яны пад паветкай, захіленыя ад сонца ці дажджу, не прыдрамалі і не праваронілі рарытэтнага цяпер аўтобуснага курса. Такое ж самае новаўвядзенне і на чарговым прыпынку — у Тайніцы.**

# У глыбінцы

па-польску, больш па-еўрапейску, з прагрэсам.

Крыжы не з'яўляюцца адзінымі культавымі аб'ектамі нашага тутэйшага чалавека. Іншай, як жа істотнай мясцовай культавай адзінкай з'яўляецца „народная ўлада"; наш народ, як калісь хрэстаматыйны Міцкевіч па Літве, тужыць-тужыць за ёю. Вось тут, у бандарскай глыбінцы і стаіць бетонны помнік, які тая ўлада па сабе пакінула, менавіта „Osiedle Bondary". Пакінула як „symbol realizacji zadań rozwoju gospodarki żywnościowej oraz programu socjalnego partii i państwa"; гэтак тая культавая ўлада ўвекавечыла сябе на адмысловым валуне каля дамбы, якая — дамба — і спарадзіла тое „Osiedle Bondary".

Цяперашняя ўлада, мясцовая, гмінная, узяла — за матрыцай з трох радкоў і трох калон бетонных жылых блокаў — амфітэатр з агромнай паветкай над сцэнай. Для публікі адведзены стоячыя месцы на траўцы. Публіцы прадбачана стаяць, а калі каму захочацца большай выгады, той можа прынесці за сабою крэсла ці табурэтку жыкаў, не ў сваю кватэру, толькі менавіта пад ларок — каб завязаць нейкую шчырую гутарку. І той мужчынскі народ прыводзіць мне асацыяцыю з багнюцкай эскаэраўскай базай, толькі тут ролю пасіўнага часу падмяняе „актыўнае" піўцо...

Побач ларка пажылая жанчына з мыліцай у адной руцэ і з венічкам у другой падмятала з траўкі восеньскае лістоўе. Калі я пацікавіўся, чаму яна ўзялася за так цяжкі ёй занятак, адказала, што робіць гэта каб было прыгажэй, бо брыдка, калі лістоўе валяецца перад вокнамі. Лапік травы перад акном бетоннай кватэры стаў ейным новым панадворкам, пра які трэба так жа клапаціцца, як пра той былы каля колішняй сваёй хаты. Але вымятанне лістоўя з-пад акна гэта не найбольшы яе клопат... Кватэрная плата за шэсцьдзесят з кавалкам метраў жылой плошчы ў бетонных сценах без тэрмаізаляцыі сягае сямі з паловай сотак злотаў. „Народная ўлада" ў ходзе здзяйснення „programu socjalnego partii i państwa" не прадбачыла такога сацыяльнага сюрпрызу, так на ягоным панадворку не відаць.

Школа — у прынцыпе — падобная на сейбіта з евангельскай прытчы. З тых зярнятак, што трапляюць у яе глебу, вырастае розная флора. А калі сейбіт збярэ плён, абмалоціць і правее яго, у выніку атрымаецца і важнае зерне, і пасрэдныя згоніны, і лёгкая палова. Школа — гэта такі жыццёвы камбайн, які выпускае розныя кармы; апошняе слова таксама амонім: гэта і корм, і карма...

Рыбакі гэта настолькі аддаленая ад Ляўкова вёска, што не відаць у ёй мураванак, якія паўсюдна ўзводзіліся ў нашым наваколлі ў час Геркавага буму. Драўляныя хаты тут ціхенькія быццам стэрэатыпныя беларусы. І непрацяглая гэта вёска — і неўзабаве выходжу на дамбу. А на ёй свежанькае асфальтавае палатно, аднак закрыта яно ад карыстальнікаў папярочнай брамай; можа гэта кур'ёз, а можа ў гэтым і нейкі невядомы мне сэнс.

За дамбай — Семяноўскае „мора", на якім памяркоўны вецярок узнімае памяркоўныя хвалі. На пірсе з паўночнага боку трох вудзільнікаў, а ў гавані дзве лодкі. Калі б не было гэтага вадаёма, за засохлым травастоем рачной даліны сядзелі б набярэжныя вёскі: Боўтрыкі, Буды, Гарбары, Лука, Рудня... Стаялі б у іх і хаты, і мураванкі — і на запушчаных, і на стрыжаных панадворках. І жанчына, што прыбірала лістоўе перад бандарскім блокам,



Рэлікты багнюцкага эскаэра





Каб расла ў сілу...

Хадзіла калісь у Ляўкове пагаворка: Шымкі, Вейкі — вёскі велькі, Юшкаў Груд — і ўжо тут! Калі ў Ляўкова ездзіла адносна шмат аўтобусаў, Юшкаў Груд здаваўся мясцовасцю надта адлеглай. Цяпер жа, з адменай істотных аўтобусных маршрутаў цераз Ляўкова, істотнага сэнсу набірае даўняя пагаворка. Бо цяпер, каб неменхазаванаму падарожніку трапіць у згаданае Ляўкова, трэба на аўтобусе ехаць у Юшкаў Груд. І ўжо тут!

У Багнюках зарастае ўсялякай флорай колішняя эскаэраўская база. Калі б быў там крыху сырэйшы грунт, расла б крапіва, але там у прынцыпе пясочак і ў пазнаватую восень дрэмлюць за шырока адкрытымі ўсялякімі праёмамі прысыхаючыя дуўманыя маслюкі. Ад былых аб'ектаў сельскагаспадарчага прагрэсу захаваліся ў прынцыпе сцены, сям-там кроквы, дзенідзе латы. Нікім цяпер не турбаваныя „адпачываюць" яны на ўлонні прыроды; час наводзіць „парадак"...

Перад Бандарамі крыж на бетонным пастаменце з надпісам „Благослови Господи и сохрани од всякого зла хрестиян д. Бондари". Дасціпны амонім „хрестиян" мабыць ахоплівае сабой і сялян, і грамадскасць хрысціянскага веравызнання.

Калі б ехаў цераз Бандары на аўтобусе, тады можа прамчаўся б па традыцыйнай вуліцы, не звяртаючы нават увагі на тамашнюю вясковую глыбінку-навінку. Але давялося пехатою; кіруюся тады за дарожным паказальнікам „Osiedle Bondary". А там свой аўтаномны крыж з самалюбна аўтаномным надпісам: „Господи спаси и сохрани жителей оселя Бондары" — яшчэ кірыліцай, але так ужо больш з недалёкай кватэры. Тыя стоячыя месцы навеялі мне яшчэ адну — не маю ўпэўненасці: грэшную ці набожную — думку-асацыяцыю пра іншы культавы аб'ект, пра царкву. А дакладней — пра палявое набажэнства, якое можна было б там спраўляць. Ёсць жа недзе ў нашай набожнай краіне палявы ардынарыят, які — як мяркую — недзе вельмі мазоліста моліцца; мог бы ён час ад часу завітаць з добрай навінай і ў крышку, як мне здаецца, прызабытую бандарскую глыбінку з палявой менавіта прапановай духоўнага напрамку. Бо ў Бандарах бачны свайго роду парадокс: побач амфітэатра красуюцца абсталяванні для дзіцячых садкоў — яны там толькі красуюцца, бо слядоў іх ужывання там не відаць. Добры і такі клопат, пра наймалодшае пакаленне, якога пакуль у пасёлку па сутнасці няма, але можа калі ўсё ж такі будзе. Але прыдалося б яшчэ нешта і асноўнаму насельніцтву, старэйшым; „Бандароўская гасцёўня" раз у год гэта добра, але магло б быць і лепш...

Усё ж такі дбайнасць пра старэйшых бандарскіх людзей у пасёлку ёсць — гэта спажывецкі ларок, дзе можна купіць хлеб і кандытарскія вырабы; па іншыя тавары трэба падацца некалькі сотак крокаў у краму, што пры галоўнай вясковай вуліцы. І ў ларку ёсць яшчэ той тавар, без якога цяжка ўявіць, пакуль што мужчынскае, вясковае грамадскае жыццё — гэта піва. Вось пры мне малады мужчына вынес на лавачку побач ларка цэлае бярэмя поўных бутэлек залацістага наталення. Па іншым, больш сталага ўзросту, было відаць, што ўжо „паснедаў". Яшчэ адзін пасля ранняй прабежкі па наваколлі прынёс некалькі ры-

як і не прадбачыла сваёй і сваёй праграмы недаўгавечнасці.

Вяртаюся на галоўную бандарскую вуліцу, даходжу да расходных дарог і находзіць на мяне спакуса, каб не мостам перайсці Нарву, а па бачнай адтуль дамбе Семяноўскага вадаёма. Кіруюся тады ў вуліцу, што калісь вяла ў напрамку згаданых раней Шымкаў. Паказваецца аблезлы будынак былой крамы. У час „realizacji zadań rozwoju gospodarki żywnościowej oraz programu socjalnego partii i państwa" была тая крама квітнеючай установай, у якую з'язджаўся шматлюдны тады народ з шырокага наваколля. Адна частка крамы задавольвала спажывецкія патрэбы пакупнікоў, другая частка — тэкстыльныя; па „жалезныя" тавары трэба было падавацца ў Шымкі. У Бандарах можна было тады купіць такі тавар, якога не было нават у павятова-раённай Гайнаўцы...

Даўно я бываў у Бандарах і не ведаў тапаграфіі тамашняй дамбы, не быў упэўнены, ці будзе па ёй ход на другі бераг. Спытаў я пра такую магчымасць у пажылога мужчыны, які збіраў каля сваёй хаты яблыкі. А як жа — ход ёсць, трэба пайсці вуліцай у Рыбакі, якая і выйдзе на тую дамбу.

— А што гэта за будынак? — спытаў я, гледзячы на дамінуючы ў тым месцы ландшафтны аб'ект.

— Гэта школа, — пачуў я ў адказ.

Шмат вады праплыло ў Нарве з таго часу, калі я глядзеў на тую школу і нейк у маёй памяці туманілася яна ў іншым месцы. Стаіць той будынак высока і высакамерна мацае закрытымі аканіцамі апусцелае наваколле. Будынак здаецца быць у прыстойным стане, хаця слядоў нейкага руху

мабыць сядзела б у хаце і, не турбуючыся кватэрнай платай, глядзела б у тэлевізар, бо ейны панадворак выстрыглі б і падмялі — магчыма, што пнеўматычнай мятлой — суботне-нядзельныя гарадскія нашчадкі. Але ж нехта ў высокіх кабінетах быў сказаў „Няхай станецца мора"; і сталася мора замест Лукі, Рудні і г.д.

З асфальтавага дамбадрома перасякаю славутую даўгавечнымі ўхабінамі шашу з Юшкавага Груда ў Навасады і лясной дарожкай кіруюся ў бок Новай Лукі. У маладой хваіне гастранамічны шапік, каля якога нехта пакінуў яго галоўны прыбор — грыль. Каля папялішча завостраныя кіёчкі для падпякання каўбасак — усё тут быццам чакае гасцей, як у МакДональдса...

Дарога з Бандароў у напрамку Міхнаўкі пад раўнюткім асфальтавым насцілам. Каля царкоўкі інфармацыйны стэнд — прыклад тутэйшага цяперашняга інфармацыйнага фальклору. Адно толькі цяпер інфармацыйны наш народ не чакае казака ад Дунаю, толькі турыста з Захаду. Стэнд побач царкоўкі двухмоўны: інфармацыя пададзена на каталіцкай і пратэстанцкай мовах — пра якуюсь царкоўную мову няма і намёку. Мяне гэта асабліва не здзівіла: калі я гадам таму быў зайшоў у нараўчанскую бібліятэку прапануючы туды крыху кніжак, тамашнія культуртрэгеркі, не пытаючы нават што я прапаную, згодным хорам запялі, што беларускіх кніжак яны не хочуць. І „нашы" ж яны, родненькія, з тым нашым адвечным атавізмам паклання панам. А паны ж у нас — толькі з найдалейшага Космасу.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Восень над Семяноўкай

Семяноўскае возера — гэта птушыная Атлантыда, птушыны рай і апора. Водзяцца тут перш-наперш водна-балотныя птушкі. У пачатку восені сюды вечарам прыляталі на начлег сотні жураўлёў. Тады і затрымліваліся тут чародці вераб'ёў. У зарасніках хаваліся сініцы, чачоткі і свістункі. Зараз на вадзе плаваюць гагары, чэрнеці і крахалі. Прылятае сюды вандроўны сокал, арол, чайка, крачка. Яны прылятаюць і адлятаюць ад нас на зімовішчы.

У асеннія доўгія вечары па возеры нясецца-праносіцца голас караля нашых соваў — пугача.

Сапраўдная зіма пачынаецца тады, калі вадасховішча будзе скаванае лёдам. Тады з гэтых водна-балотных найдаўжэй застаюцца толькі качкі крыжанкі. Яны трымаюцца там, дзе вада яшчэ зусім не замерзла, на г.зв. опажэлісках. За імі цікуе арлан-белахвост — наш найбольшы драпежны птах. Тут, над Семяноўскім возерам, яго сустрэнем круглы год.

## Ці ведаеце, што...

...у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) у 1992 годзе крыштальную ваду з крана атрымалі жыхары вёсак Старое Ляўкова, Новае Ляўкова (тут нават у дамах на калёніі, у прысёлку) і Падляўкова. Закончылі пабудову водаправода ў Гушчэвіну.

У 1993 годзе пабудавалі водаправоды ў Ахрымах, Плянце, Альхоўцы і ў Забрадах.

У 1994 годзе выкапалі артэзіянскую студню для будучага водаправода ў Масеве.

У 1995 годзе паплыла вада з кранаў у Лешуках і ў Міхнаўцы ды ў 1996 годзе — у Скупаве.

У 1992 годзе пачала дзейнічаць ачышчальня сцёкаў у Нараўцы. Першая ў гэтай гміне.

У 2001 годзе пабудавалі водаправод да Новін, Кругліка і да леснічоўкі ў Альхоўцы ды ў 2002 годзе ў прысёлак Пароспае. **Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

31 кастрычніка 2013 года на 78 годзе жыцця памерла **Таццяна ЯНОВІЧ.**

Словы глыбокага спачування сям'і і блізкім выказваюць

**журналісты і сябры Тыднёвіка „Ніва"**

## СПАЧУВАННІ

**Прафесар Ніне Баршчэўскай**

— кіраўніку Беларускай службы Польскага радыё словы спачування з прычыны смерці Маці, выказваюць

**калектывы Беларускага Радыё Рацыя і Тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва"**

## СПАЧУВАННІ

**Прафесар Ніне Баршчэўскай**

— кіраўніку Беларускай службы Польскага радыё з прычыны напаткаўшага гора

**— смерці Маці**

**перакавае ўправа і супрацоўнікі Польскага Радыё Беласток**

# Лех Крук — усе мы браты

**Лех Крук — прадпрымальнік, уласнік агратурыстычнай сядзібы, прыхільнік гісторыі Сакольскай зямлі, аднавіў магілы жаўнераў, загінуўшых на Сакольшчыне ў час Другой сусветнай вайны. За ўсе матэрыялы патрэбныя для рамонту заплаціў сваімі грашыма. Лакальная ініцыятыва спадара Крука выклікае сярод жыхароў Саколкі і Янава вялікую дыскусію. Справа рамонту савецкага могільніка ў Саколцы стала прычынай больших спрэчак, чым у выпадку знішчэння месц пахаванняў, якія мелі месца на Падляшшы.**

Лех Крук цэлае жыццё ездзіў грузавікам. Цяпер ён ужо пенсіянер і займаецца агратурызмам ды папулярызацыяй лакальнай ежы, якую сам вырабляе. Шынкі і настойкі паводле даўнейшых янаўскіх рэцэптаў часта прэзентуе на фэстах у час канікулаў. Лех Крук сам лічыць сябе асобай вельмі ўражлівай на прыгажосць. Любіць купляць абразы, у тым ліку мясцовых мастакоў. На сценах у хаце Леха Крука вісяць партрэты прыгажунь з шальмоўскімі ўсмешкамі, краявіды з белымі лебедзямі, а паміж гэтым усім здымкі Пуціна і папы Францішка. Доказ на непрыхаваную сімпатыю да гэтых двух уплывовых фігур сучаснага свету. У ідэалагічным плане гэтыя дзве асобы настолькі адрозніваюцца ад сябе, што не кожны павесіў бы іх здымкі над адным кухонным сталом. Аднак Лех Крук звяртае ўвагу на менш вядомыя масавай свядомасці дробязі. Папа Францішак гэта проста „харошы чалавек", а Пуцін носіць прывезены са Святой Зямлі медальён. Такі сам, які вісіць на грудзях Леха Крука: „Можа гэта нас спалучае?" — пытаецца з усмешкай спадар Лех.

„Тут знаходзіцца месца апошняга спачыну нашых блізкіх і незабыўных братоў, салдат Чырвонай Арміі, якія загінулі пры вызваленні нашай Радзімы ад нямецка-фашысцкай акупацыі падчас Другой сусветнай вайны" — гэтакі надпіс яшчэ да нядаўна знаходзіўся на могілках салдат Чырвонай Арміі ў Саколцы. Аўтарам і фундатарам мемарыяльнай дошкі з'яўляецца Лех Крук. Дошку з дыскусійным надпісам пакуль што выдалілі па загадзе ўлад горада. Прычынай гэтага рашэння з'яўляецца факт, што могільнік савецкіх салдат — месца спачыну вайскоўцаў, якое ахоўваецца законам. Таму ўсе змены патрабуюць дазволу рэстаўратара помнікаў і падляшскага ваяводы. Аднак, як падкрэслівае намеснік бурмістра Саколкі Пятро Буйвіцкі, магчыма дошка вернецца на сваё месца.

— Мы трымаем гэтую дошку, чакаем адказу. Дзяржаўныя ўстановы вырашаць ці гэты надпіс паліткарэктны. Калі рашэнне будзе пазітыўным, дошка напэўна вернецца на могільнік.

Як падкрэслівае Пятро Буйвіцкі, лакальныя ўлады да ініцыятывы Леха Крука маюць пазітыўнае стаўленне. Нават за дзейнасць у карысць лакальнай спадчыны хочуць узнагародзіць янаўскага прадпрымальніка.

Лех Крук ужо раней хацеў зрабіць парадак на савецкіх могілках. Штогод на Усіх святых і Дзень перамогі прыязджаў у гэтае месца, каб ускласці кветкі і запаліць знічы. У гэтым годзе адмаляваў і ачысціў з моху 150 надмагілляў.

— Я выбраў зялёны колер фарбы таму, што гэта вайсковы могільнік. Над усімі надмагільнымі камянямі знаходзяцца сімвалічныя зоркі, гэтыя я памаляваў на чырвоны колер. Яшчэ перад кожным надмагіллем я змясціў салярную лямпу, дзякуючы чаму вельмі прыгожа гэта ўсё выглядае ўночы.

Апрача таго Лех Крук на надмагіллях, дзе не было надпісу з іменем і прозвішчам, павесіў таблічкі: „Магіла невядомага салдата, загінуўшым слава, жывым свабода!".

Лех Крук, нягледзячы на дыскусіі, якія ўзніклі пасля рамонту могільніка, не думае спыніць сваіх планаў. Ужо ў наступным годзе вернецца на савецкі могільнік, каб аднавіць паркан, каменны надпіс, які вісіць перад могільнікам і — самае галоўнае — адрамантаваць помнік загінуўшым жаўнерам. Яўрэйскія занядбаныя могілкі ў Янаве ці Саколцы таксама дачакаюцца рамонту на кошт Леха Крука.

„Любі бліжняга свайго, як самога сябе", „Не судзіце, і не будзеце асуджаны самі" — гэтымі біблейскімі цытатамі, якія магчыма гучаць надта пафасна, Лех Крук тлумачыць сваё неабыякавае стаўленне да месц вечнага спачыну савецкіх жаўнераў.

— Каталік адрозніваецца тым, што ўмее любіць нават свайго ворага, — кажа прадпрымальнік у адказ на закіды мясцовых, якія не зусім разумеюць шчодрасць свайго земляка. — Я талерантнасці навучыўся на Захадзе і ад сваёй маці. Яна ў час Другой сусветнай вайны гаварыла да гэтых, якія ўзбагачаліся на крыўдзе іншых: „Вы, палякі, крадзяце падушкі па яўрэях; дачакаецеся, што і па вас іншыя таксама будуць красці". З хаты я нес пашану да другога чалавека. Ездзіў я даўней грузавіком па ўсёй Еўропе. У людзей, якія там жывуць, іншы менталітэт. Я думаю, што трэба імкнуцца да таго, каб не было гэтай русафобіі, антысемітызму... Рускі ці яўрэй, амерыканец ці немец — усе яны нашыя браты.

**Уршуля ШУБЗДА**

Фота Уршулі ШУБЗДЫ

1 ☞ працяг

апавяданняў напісаных па-беларуску і нават Яўген Вапа прасіў дасылаць іх для друку. Але я не прыбраўся гэта зрабіць. Ёсць у мяне таксама апавяданні на іншых мовах і можа неяк збяруся іх выдаць.

**— Вы многа перажылі і аб многім можаце расказаць. Ці не задумваліся, каб спісаць і выдаць успаміны?**

— Калі чалавек памрэ, забірае ўсе ўспаміны з сабой і ў мяне ёсць яшчэ надзея, што спішу свае ўспаміны.

**— Вы хіба яшчэ з дзяцінства вынеслі вялікую любоў да Хрыста і прывязанасць да Царквы, паколькі, здабыўшы свецкую вышэйшую адукацыю, рашыліся яшчэ вучыцца ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве і пазней выбралі манаскую дарогу?**

— Я з дзяцінства любіў хадзіць у царкву ў Нараўцы маліцца. Там спяваў у царкоўным хоры і чытаў у царкве. Проста цягнула мяне ў царкву, а стаць настаўнікам Праваслаўнай семінарыі запрапанаваў мне Міхал Грыцуняк, сённяшні мітрапаліт Сава, з якім я пазнаёміўся раней, пасябраваў і перапісваўся. Пазней я таксама ішоў па дарозе, якую раней пратоптваў мітрапаліт Сава. Кіраваў працай канцылярыі Варшаўскай мітраполіі, пазней стаў епіскапам Лодзінскім і Познаньскім. Калі архіепіскап Беластоцка-Гданьскі Сава быў выбраны мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы, запрапанаваў мне заняць яго месца і стаць архіепіскапам Беластоцка-Гданьскім. Але я стаў прасіць адпусціць мяне ад гэтага паслушання. Я тады пачаў рамантаваць сабор Аляксандра Неўскага ў Лодзі, збудаваны ў 1884 годзе ў візантыйскім стылі, несумненна адзін з самых цудоўных храмаў у Польшчы, і быў яшчэ навуковым супрацоўнікам Універсітэта ў Лодзі. Мітрапаліт прыхіліўся да маёй просьбы і я застаўся ў Лодзі.

**— Здабыўшы вышэйшую тэалагічную адукацыю, Вы далі манаскую прысягу, сталі свяшчэннікам і сталі служыць Богу ў Варшаве, а пасля былі вікарным Люблінскім епіскапам Варшаўска-Бельскай епархіі. З 1981 года Вы ўзначальваеце Лодзінска-Познаньскую епархію.**

— Я ў Лодзінска-Познаньскай епархіі ўжо 32 гады. Яна самая вялікая па тэрыторыі праваслаўная епархія ў Польшчы, але аднача́сна самая бедная, бо ў нас ёсць толькі 15 прыходаў. У XIX стагоддзі ў Лодзі панавала талерантнасць. Тыя самыя асобы, што былі спонсарамі і будавалі праваслаўны сабор у Лодзі, немец, яўрэй, католік і праваслаўны, будавалі таксама каталіцкі касцёл, евангелісцкую кірху і сінагогу. Пазней гісторыя ў нас была сумнай. Пасля Першай сусветнай вайны цэрквы на гэтай тэрыторыі разбуралі або перараблялі на каталіцкія касцёлы. У час Другой сусветнай вайны нашая тэрыторыя належала да Рэйха, кіраваў ёю епіскап з Берліна. Пасля вайны тутэйшых свяшчэннікаў сталі лічыць супрацоўнікамі немцаў і вывозілі ў Сібір. Пры народнай уладзе ў розных справах трэба было прасіць згоды ва Установе па справах веравызнанняў і гэта абмяжоўвала нашую дзейнасць. Зараз ёсць у нас праваслаўныя вернікі розных нацыянальнасцей, якія жылі тут, або прыбылі сюды пазней: палякі, беларусы, украінцы, расіяне, грэкі, кіпрыёты, сербы, македонцы, ці арабы. На Пасху, у час багаслужбы, я вітаю іх словамі *Хрыстос Уваскрос* на розных мовах і стараюся размаўляць на розных мовах з людзьмі, што прыязджаюць паглядзець наш прыгожы сабор. Я люблю вучыцца розным мовам і навучыўся даволі добра гаварыць па-англійску і па-французску, між іншым, выязджаючы ў Парыж. Тут, у Лодзі, мы выдалі на трох мовах 7 тамоў лексікона «Ідэі ў Расіі», арганізуем у нашым саборы «Фестываль чатырох культур» і я, перайшоўшы ўжо на пенсію, яшчэ па кантракце чытаю лекцыі ў Лодзінскім універсітэце, пішу і публікую.

**— Вы, уладыка, публікуеце многа багаслоўскіх матэрыялаў.**

**У Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве адстаялі доктарскую працу «Рэлігійна-грамадскія думкі ў творчасці Дастаеўскага», з'яўляецеся таксама аўтарам навуковых даследаванняў па літаратуры, дзе паказваеце адносіны пісьменнікаў і іх герояў да Бога і Царквы. Пішаце на польскай, расійскай і беларускай мовах, а зараз, пабываючы на Беласточчыне, Вы сустракаецеся з праваслаўнымі вернікамі і расказваеце пра выдадзеную сёлета кніжку Вашага аўтарства «Пісьменнік і Бог. Дастаеўскі. Гогаль. Талстой». У кніжцы паказваеце, што праз свецкую літаратуру можна таксама знайсці дарогу да Бога. Якой беларускай літаратурай можна пакарыстацца, шукаючы дарогу да Хрыста?**

— Многа беларускай літаратуры паказвае гэтую дарогу, бо дарога да Бога, гэта дарога да чалавека. Можна гэта знайсці ў творчасці Багдановіча, Цёткі, Купалы, Коласа, а ў якасці прыкладу можна прывесці радкі з паэмы «Новая зямля» — «Мой родны кут, як ты мне мілы...».

**— Вы цікавіцеся таксама музыкай. Ці гэта праўда, што хочаце напісаць па-беларуску твор, дзе будзе сюжэт з музыкай?**

— Добрую музыку я любіў заўсёды. Яшчэ ў маладых гадах я крыху навучыўся іграць на скрыпцы і фартэпіяна, а будучы студэнтам вучыўся да экзамена з уключаным радыёпрыёмнікам. Я люблю слухаць класічную музыку розных кампазітараў і перадусім харавую музыку. У мяне быў вельмі добры слых і я любіў спяваць у хоры. Калі не стала ў нас дырыжора, я, нават будучы епіскапам, кіраваў хорам у саборы ў Лодзі. У галаве маёй паўстала задума, каб напісаць нешта спалучанае з вайной і музыкай Шапэна, але яшчэ зарана аб гэтым гаварыць.

**— Дзякую за размову і жадаю здароўя ў час далейшай службы Богу.**

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

# Старыя здымкі жыхароў БАЦЮТАЎ







Неяк у канцы кастрычніка патэлефанаваў мне беларускі мастак-кераміст, сябра Саюза беларускіх мастакоў Мікола Несцярэўскі: „Я цяпер знаходжуся ў Дзятлаве ў сястры, прыедзь да мяне, знайшоў некалькі цікавых фотаздымкаў, яны табе спатрэбяцца".

Сядаю ў машыну і еду ў Дзятлава. Каля веснічак дома сустракае мяне спадар Несцярэўскі, мы вітаемся, заходзім у хату і ён дастае з фотаальбома гэтыя фотаздымкі. Але перш чым кінуць на іх позірк, пытаюся: „Як гасцявалася ў родных Бацютах у жніўні?". „О, вельмі добра! — усміхнуўся Мікалай Лаўрэнцьевіч. — Сустрэўся з усімі роднымі людзьмі, сваякамі, сябрамі. Вельмі даўно іх не бачыў. Шчыра скажу, захацелася вярнуцца ў Бацюты і дажыць там свой век. Я ж ужо стары чалавек — мне ў сакавіку 2014 года будзе 83 гады. Гэта бацька мой рана памёр і пахаваны ў Тапільцы. Відаць, я жыву і за сябе, і за бацьку".

— А чаму так рана Ваш бацька памёр? — пытаюся ў спадара Міколы.

— Аднойчы ён паехаў па сена зімою, а лёд быў слабы і бацька з сябрамі праваліўся пад лёд. Пакуль выцягнулі коней і сані, то моцна замерзлі. Пасля бацька хутка захварэў на сухоты і памёр. Яго пахавалі ў Бацютах. А маці з цягам часу выйшла замуж за другога.

Пасля гэтага Мікола горка ўздыхнуў і паказаў некалькі старых фотаздымкаў. На адным з іх сядзіць у першым радзе другі злева Лаўрэн Несцярэўскі са сваімі аднавяскоўцамі-хлопцамі — грамадскімі актывістамі. Здымак быў зроблены ў Бацютах 29 лістапада 1926 года. Бацька спадзяваўся на савецкую ўладу, што калі яна прыйдзе ў Бацюты, то жыць стане лепш і спакайней. Але бацька, як і многія ў Бацютах, тады памыляўся.

На двух другіх фотаздымках, якія былі ўжо зроблены ў Дзятлаве на Гарадзеншчыне ў 1948 годзе, перасяленцы з Беласточчыны. Найбольш тут вяскоўцаў з Бацютаў, Завадаў, Зачарлянаў, Тапільца. Многіх ужо няма ў жывых. Гэта сем'і Калодкаў, Шайноўскіх, Абрамовічаў, Конюхаў і іншых. А некаторыя яшчэ жывуць у Беларусі. Іх вывезлі з Беласточчыны ў 1946 годзе.

Старыя фотаздымкі, якія сёння друкуюцца ўпершыню, нагадваюць няпросты і складаны лёс беларусаў Беласточчыны, а таксама з'яўляюцца сведкамі падзей сярэдзіны XX стагоддзя.

Сяргей ЧЫГРЫН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Кіно, „Зорка”, заапарк...

Добры чалавек арэхам падзеліцца! — так кажа беларуская прыказка. Вось і сярод нашых чытачоў мы сустрэлі добрага хлопца. Калі ўсе дзеткі частаваліся ласункамі, ён узяў два цукеркі і адразу апраўдаўся:

— Адзін для брата завязу!

Штосьці прыгожага было ў гэтым, здавалася б, прызабытым беларускім жэсце. Ячшэ не так даўно, калі старэйшы брат ці сястра вярталіся з горада, яны абавязкова прывозілі падаркі малодшым дзеткам. Цукеркі, смактушкі, ледзяны, пернічкі, лізакі, дражэ...

Падумаеце — а каго ж так файна хваліць „Зорка”?

Гэтыя добрыя словы пра дзетак з Орлі. У сонечную сераду, 30 кастрычніка, наведалі нас вучні і настаўніцы з Орлі. Дзеткі прыехалі ў кіно, што знаходзіцца ў вядомай гандлёвай галерэі. Пасля фільма яны адразу прыйшлі ў „Зорку”. Сярод нашых гасцей амаль усе — навучэнцы беларускай мовы. Яны расказалі нам пра дэкламатарскія конкурсы і тэатр, і нават сярод мілай грамадкі была дзяўчынка, якая ведала на памяць верш Віктара Шведа. Прозвішча паэта тут вельмі важнае. Першыя гады сваёй навукі Віктар Швед правёў у Орлі. Там стаў пісаць вершы. Добра, што яго арлянскія вучні ведаюць і ганарацца асобай паэта. Мы таксама заўсёды адзначаем, што паэт ужо 57 гадоў друкуе вершы на старонках „Зоркі”. Ці ёсць ячшэ ў свеце такі прыклад творчага сяброўства?

У рэдакцыі мы падрыхтавалі адмысловыя сюрпрызы. Паэтка Міра Лукша прачытала нашым госцейкам верш „Арлы з Орлі”. Дзеткі глядзелі на кніжку „Жывінкі з глыбінкі”, у якой выявы двухмоўных указальнікаў, і нічаму не здзіўляліся. У Орлі малы і стары ведае, што іх мясцовасці падпісаны, так як у нашай кніжцы, па-польску і па-беларуску. Вершы пра жывінак, так сказаць, адкрылі нашых сяброў на наступны этап экскурсіі. Ячшэ перад ад'ездам у Орлю яны рашылі наведаць заапарк, каб там ужо пабачыць жывых звяроў, птушак і прыгожы парк.

ЗОРКА





## Вершы Віктара Шведа

### Штучныя зубы

У школе зубны лекар
Дзетак пытаецца:
— Якія зубы чалавеку
Апошнімі з'яўляюцца?

Сцвярджае Янка: — Людзі
З зубамі неразлучныя.
Апошнімі ў іх будуць,
Вядома, зубы штучныя.

### У галерэі

У галерэі прыгожай
Запытала паненка:
— Ці прымерыць можна
На выставе сукенку?

— Можна, дарагая, —
Адказалі з дзверам.
Ды мы ячшэ маем
Такой для прымерак.

## Лістапад, лістапад...

Пра лістапад кажуць: у гэты час досвітак са змрокам сустракаюцца. На дварэ ўсё менш святла і сонца. Усё даўжэй цягнецца ноч. Дрэвы скідаюць свае апошнія лісты. Прырода замірае, рыхтуецца да зімы. Прыхавалі свае зімовыя прыпасы птушкі і звяры: краты назбіралі дажджавых чарвей; вавёркі — арэхаў, жалудоў, грыбоў; совы — мышэй і дробных птушак; выдры — рыб; мышы — арэхаў, ягад...

Рэдкае цяпло замяняецца холадам, а снег — дажджом, слатой. Лістапад — апошні месяц восені.

## Увага конкурс!!! Загадкі з роднай хаткі (№ 45-13)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 15 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

*1.*
*Восень ці лета,*
*Зіма ці вясна —*
*Ніколі кажух*
*не здымае яна.*
*(а...а)*

*2.*
*Ідзе*
*Спаважанаю хадой,*
*Нясе*
*Бліны пад барадой.*

**Адказ на конкурс-загадку № 41-13: Конь, чалавек на кані. Узнагароды — майкі з лагатыпам Радыё Рацыя — атрымалі Сяропа Раманюк і Тамаш Мусюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Паверыць у сваё шчасце!

Як ніколі шматлюдна ў гэты раз нашыя школьнікі прыступілі да Літаратурнага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют”. І гэта класна. Найбольш удзельнікаў з... Міхалова! Смачок гэтага ныюса ў тым, што ў Міхалове ад двух гадоў зноў пачалі вывучаць беларускую мову. Добра, калі нашыя навучэнцы з цікавасцю ставяцца да пісанага слова. Усіх конкурснікаў чакае сустрэча з сябрамі па пяру, усе атрымаюць кніжныя ўзнагароды. Самыя цікавыя творы будуць надрукаваны ў „Зорцы”. А ўжо сам факт, што нехта апублікаваў свой твор, гэта вялікая радасць і гонар — для вас, для чытачоў, для сям'і і для настаўнікаў.

Добрыя прыклады заўсёды ўздзейнічаюць на іншых. Яны дапамагаюць раскрыць нашыя здольнасці, пераадолець хваляванне і нясмеласць. Нас цешыць, што памалу вяртаецца мода на допісы ў „Зорку” — пра вашыя прыгоды, пра сям'ю, пра канікулы. Важна, каб паспрабаваць выказаць свае думкі па-беларуску. Цешыць нас таксама вашая актыўнасць у конкурсах.

Кожны тыдзень мы атрымліваем за сотню адказаў на крыжаванкі і конкурсы. Мы спадзяемся, што дзякуючы гэтай гульні вы лепш засвоіце беларускую мову. Тут таксама, нягледзячы на канкурэнцыю, можна выйграць узнагароды, якія спатрэбяцца ў школе.

Пры нагодзе можна праверыць сваё шчасце. У гэтай гульні заўсёды ёсць асобы, якія нягледзячы на канкурэнцыю, заўсёды маюць поспех у жараб'ёўцы. А мы ў сваю чаргу маем многа файных узнагарод! А зараз, разам з вамі, у вялікім засяроджанні чакаем вынікаў літаратурнага конкурсу.

**ЗОРКА**

# Адзін дзень народзінаў!

У гэтым годзе мы разам з сястрой Аняй (мы — блізняты) святкавалі наш дзесяты Дзень народзінаў. Было вельмі прыемна. Сабралася ўся наша сям'я: мама, тата, дзве бабулі, дзядуля, цёці, дзядзькі, браты, сёстры. Я атрымала ад іх многа падарункаў, мая сястра таксама. Мама падрыхтавала адмысловы торт са свечкамі. Пасля пачастунку мы добра гулялі. Гэты дзень я запамятаю надоўга. Мы з сястрой вельмі падобныя, некаторыя называюць мяне Аняй, а Аню — Зузяй. Часам з-за гэтага бываюць у нас смешныя здарэнні. Але нам разам весялей і лягчэй. Усё робім супольна, разам. Нават святкуем адзін Дзень народзінаў.

*Зузя Савіцкая,*
*чацвёрты клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

Аня і Зузя Савіцкія з бацькамі

# Цёплы ўспамін Чарнагорыі

У гэтым годзе ў час канікулаў я пабывала ў Чарнагорыі. Мы адпачывалі на беразе мора. Мы купаліся, плавалі на водным веласіпедзе, загаралі. Я адпачывала са сваёй сям'ёй — бацькамі, братам і сёстрамі.

Вечарам усёй сям'ёй мы хадзілі на шпацыры, з абавязковым прыпынкам на марожанае. Гэтая паездка вельмі мне падабалася. Я цешуся, што вярнулася здаровая дамоў.

*Аня Савіцкая,*
*чацвёрты клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## *Падляшская легенда*

# ЦАРКАВІСКА

Недалёка ад Прыстані ўрочышча Царкавіска здобіць легенда пра царкву, што правалілася пад зямлю разам з малячыміся. На першы дзень Вялікадня, кажуць, можна тут пачуць гранне званоў і набожныя спевы, а цёмнымі вечарамі пламеньчыкі свечак доўга-доўга кружаць шырокім карагодам, быццам у хрэсным ходзе, спускаюцца да ракі і гінуць у яе тоні. А з нязведаных падзямелляў пагорка на Прыстані час ад часу выходзіць постаць воя-велікана, які ўздзявае на сябе шлем, зброю, прыпасвае меч і сыходзіць, дзвэнкаючы ўзбраеннем і стогнучы, да самай ракі, якраз туды, дзе калісьці была пераправа ці мост на старым гасцінцы, што з Гродна праз Бельск вёў на Драгічын...

# Польска-беларуская крыжаванка № 45

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41:**

Пошум, шанс, сноп, шапка, шышка, брат, раз, не, ножка, цуд. Пух, збан, ар, шарж, сытак, наш, за, шопка, шапка, ну, аса, швед.

Узнагароды, карткачі для запісак, выйгралі **Міхал Сахарчук, Тамаш Мусюк, Аляксандра Раманюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Паўліна Лаўнічук, Барташ Ламашкевіч** з Нараўкі, **Марыя Вараньчук, Марыюш Красько** з Арэшкава, **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Юстына Вайцяховіч** з Бабікаў. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Listopad | | Biskup / Stolik | Tara | | Ganek / Data | | | | |
| | | | | | | | | Adres / Jednak | |
| Talia | | | | | Dach | | | | |
| Korek | | | | | | Chrzan / Ara | | | |
| | | | | | | Sak | | | |
| Pi | | | | | Bierz | | | Era | |
| Pięść | Kompania | | | | | | | | |

# Хлеб, шоў, страх

**Нядаўна выпушчаная кніга Анджэя Пачобута «Сістэма Беларусь», прысвечаная феномену Аляксандра Лукашэнкі — як пішуць першыя яе рэцэнзенты — не адказвае на пытанне як у рэшце рэшт складзецца лёс апошняга дыктатара Еўропы і краіны, якую ён узначальвае. Аўтар у рамках прамоцыі кнігі наведаў Кракаў, Варшаву, і ў канцы (29 кастрычніка) Беласток, па запрашэнні Фонду ўніверсітэта ў Беластоку.**

**Анджэй Пачобут** — журналіст, публіцыст і блогер, таксама актывіст польскай меншасці ў Беларусі. З 2006 года — карэспандэнт штодзёнкі «Gazeta Wyborcza». Неаднаразова атрымліваў журналісцкія ўзнагароды за межамі сваёй радзімы. У 2011 годзе штомесячнік «Press» прызнаў яго «Журналістам года». За яго грамадскую і журналісцкую дзейнасць таксама неаднаразова яго затрымлівалі і арыштоўвалі. За быццам бы знявагу Лукашэнкі на старонках «Выбарчай газеты», у беларускай прэсе і на яго блогу ў 2011 годзе быў прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады. Жыве ў Гродне. Ужо больш чым два гады не мог выязджаць з Беларусі ў сувязі з абмежаваннямі, накладзенымі яму судом. У верасні суд у Гародні вызваліў яго ад абавязку выконвання пакарання пазбаўлення волі за абразу прэзідэнта Беларусі ў яго артыкулах.

— Гэты выпадак не аказаў вялікага ўплыву на маю працу, — сказаў тады журналістам пасля выхаду з будынка суда. — Як я працаваў, так і працую. Як я пісаў, так працягваю пісаць. Я ўвесь час думаю аб тым, як найбольш дакладна апісаць рэальнасць, а не пра тое, ці гэта спадабаецца пракуратуры, КДБ, Аляксандру Лукашэнку ці камусьці яшчэ.

Як тады прызнаўся, у перыяд прыпынення дзеяння рашэння самай цяжкай для яго была забарона выезду з Гродна, хаця гэтая цяжкасць і так не была такой вялікай у параўнанні з турмой, дзе правёў у 2011 годзе тры месяцы ў чаканні прысуду.

У сваёй кнізе паказвае эвалюцыю дыктатуры Лукашэнкі і механізмы, якія дазваляюць яе падтрымліваць. Апісвае, як Аляксандру Лукашэнку ўдалося прыйсці да ўлады ў 1994 годзе, прадстаўляючыся беларусам змагаром з карупцыяй. Вынікі карупцыйных расследаванняў Аляксандра Лукашэнкі былі мізэрнымі, але дапамаглі яму ва ўнутранай барацьбе за ўладу. Як Пачобут піша ў кнізе, ніхто ў той час Лукашэнку не разглядаў сур'ёзна, здавалася, што гэта проста нявыхаваны дырэктар саўгаса, а затым аказалася, што ніякія выбары не былі справядлівымі, і дыктатар з часам паставіў краіну ў залежнасць ад расійскага фінансавання, паставак таннай сыравіны, нафты і газу. Анджэй Пачобут сцвярджае, што Аляксандр Лукашэнка аддае незалежнасць краіны па частках, між іншым, прадаючы стратэгічныя прадпрыемствы, даўшы згоду на стварэнне ваеннай базы, блакуючы інтэграцыю Беларусі і Захаду. Сцвярджае, што беларуская мова знікае, і гісторыя ідэалагізуецца, улада ігнаруе факт сталінскіх рэпрэсій, у якіх загінулі дзесяткі тысяч грамадзян Беларусі; не знаходзяцца месцы гэтых экзекуцый, на працоўных месцах і ўніверсітэтах працуюць ідэолагі, якія клапоцяцца, каб усе паводзілі сябе так, як хоча ўлада. Кніга таксама паказвае, як беспрэцэдэнтным чынам Аляксандр Лукашэнка ставіцца да палітычнай апазіцыі. Нагадвае пра зніклых без вестак людзей, аб палітычных зняволеных, якія пакутуюць гадамі ў турме толькі таму, што мелі смеласць выступіць супраць дыктатуры.

У пасляслоўі чытаем: «Дзяржава гэта Я! — казаў Людовік XIV, абсалютны ўладар Францыі і французаў. Падобна можа сёння сказаць пра сябе Аляксандр Лукашэнка, прэзідэнт, уладар і «бацька» Беларусі з 1994 года. На самой справе — яго асоба настолькі падпарадкавала грамадскае жыццё, што сёння нельга гаварыць пра Беларусь, не кажучы пра Лукашэнку. Яго партрэты вісяць у кожнай урадавай установе. Ад таго, што сёння зрабіў для краіны, які падпісаў дакумент, ці што важнага сказаў, пачынаецца амаль кожнае выданне ўсіх беларускіх тэленавін. Лукашэнка разглядаецца як вярхоўная ўлада ў палітыцы, спорце, культуры».

Анджэй Пачобут піша, што загалоўная «Сістэма Беларусь» заснавана на трох кітах: хлебе, шоў і страху. Хлеб з'яўляецца гарантыяй таго, што калі ты не надта будзеш высоўвацца, то зарплату — хоць і не вельмі высокую — кожны месяц атрымаеш. Тваё фінансавае становішча залежыць, вядома, ад улады, таму што 80 адсоткаў беларускай эканомікі знаходзіцца ў яе руках. Найбольш хлеба атрымаюць алігархі. Але ў выпадку найменшага непадпарадкавання гэта хлеб турэмны. Шоў гэта прапагандысцкія прадстаўленні ў тэлебачанні для народа, у якіх вусаты дыктатар аб'ядноўваецца, напрыклад, з тэлевізійнай студыі са службовымі асобамі і лае іх за неэфектыўную працу, або кажа, што быццам Бог аформіў для іх добрае надвор'е для ўраджаю. У шоў не могуць умешвацца незалежныя СМІ, якія былі адсунуты і часта ўсталёўваюць сабе аўтацэнзуру.

У ходзе сустрэчы ў Беластоку аўтар заявіў:

— Для сярэдняга паляка Беларусь застаецца загадкай як Лукашэнка мог стаць прэзідэнтам. Мая кніга гэта не яго біяграфія, а аповед пра дарогі, якія прывялі Беларусь да сучаснага стану. Сённяшняя сістэма ў Беларусі з'яўляецца аўтарскай сістэмай Лукашэнкі (...). Лукашэнка мае талент, калі справа ў палітыцы, адчувае грамадства і з'яўляецца здольным папулістам. У Расіі ён вельмі папулярны. Савецкі код вельмі добра ведае і грае на гэтых пачуццях грамадства. Доўгі час меў рэпутацыю прыдурка, але ім не ёсць. Ён не баіцца рызыкі, правакуючы канфлікты і вельмі часта перамагае.

Прыгадаў:

— Калісьці паўтараў, што самая важная рэч прыгожа адысці, але не тлумачачы, што значыць «прыгожа». Потым шмат разоў казаў, што не зыдзе з пасады, што гатовы праліць кроў, абараняючы ўладу. Не раз нагадаў, што яго героем з'яўляецца прэзідэнт Чылі Сальвадор Альендэ. Ён прыйшоў да ўлады фактычна атрымаўшы перамогу на першых незалежных выбарах у Беларусі. Пасля 2011 года, калі адбыўся абвал беларускай эканомікі і крызіс у Беларусі, незалежныя сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што адна траціна грамадскасці падтрымлівае яго, траціна рашуча выступае супраць, а астатнія ў адпаведнасці з бягучай сітуацыяй прымацаваны да адной ці другой групы. Ён старэе і мае маленькага сына — Колю, які мае ацепліць яго імідж.

Спасылаючыся на сітуацыю беларускай апазіцыі, сказаў:

— Пасля пятнаццаці гадоў пераследу і рэпрэсій, і пасля таго як загінулі яго самыя зацятыя працаўнікі, беларуская апазіцыя не зможа вывесці за сабой людзей на вуліцы. Яна таксама ў крызісе і падзеленая.






Справа: Анджэй Пачобут

Адзначыў:

— Вядома, дарога Беларусі вядзе на Захад, але кожная палітычная сіла павінна прымаць да ўвагі той факт, што беларуская эканоміка залежыць ад Расеі, якая з'яўляецца рынкам збыту для Беларусі і пастаўшчыком энергіі. Паводзіны Лукашэнкі ў адносінах да Расеі і Пуціна не рабскія. Ён лічыць, што ён раўня Пуціну. Што больш, ён таксама лічыць, што Пуцін заняў яго месца, ён марыў пра месца ў Крамлі. Абвяшчаючы ідэю, што Беларусь з'яўляецца незалежнай дзяржавай, хоча, каб яму не мяшалі ў тым, як ён хоча кіраваць Беларуссю.

Што тычыцца будучага Лукашэнкі, прадбачыў:

— Калі патрапіць пабудаваць канкурэнтаздольную эканоміку, яго ўлада можа працягвацца гадамі, але беларуская эканоміка неэфектыўная. Нават ежа ў цяперашні час даражэйшая, чым у Польшчы. Такія сістэмы як у Беларусі даканала якраз неэфектыўная эканоміка. Тым не менш, канец цяперашняй сістэмы ў Беларусі неабавязкова абазначае канец Лукашэнкі як палітыка. Тым часам, з 2011 года, няма ніякага рашэння для паляпшэння сітуацыі нашай гаспадаркі. Ён прадаў рускім трубаправоды, якія ў 50 працэнтах належалі Беларусі, і грошы гэтыя пераелі, каб разрадзіць сітуацыю.

Адказваючы на адно з пытанняў, прызнаўся:

— Лукашэнку марыцца кітайскі варыянт: дыктатура з капіталістычнай эканомікай. Але ён адначасова хоча кантраляваць эканоміку, якая на 80 адсоткаў належыць дзяржаве. Гаворыцца пра прыватызацыю, але да гэтага часу нічога не было прыватызавана. Будзе наступаць павольнае прадаванне гаспадаркі расіянам. Будзе перадавацца ў рукі расіян павольна, але няўхільна. Планы рэформаў, прапанаваных урадам, нават атрымліваюць прызнанне Лукашэнкі, але не ўступаюць у сілу. Відаць, што Лукашэнка баіцца рызыкі.

Адказаючы на іншае пытанне, адзначыў:

— Пасля 1991 года беларусам трывала прышчапілася, што Беларусь з'яўляецца незалежнай дзяржавай. Папулярнасць незалежнасці ў Беларусі вельмі высокая, нават сярод чыноўнікаў.

Аб спробах размоў г.зв. афіцыйнага Захаду з беларускім рэжымам успомніў:

— Важна, каб з гэтых перамоў штосьці вынікла, за выключэннем легітымнасці Лукашэнкі, які выкарыстоўвае іх у прапагандысцкіх мэтах.

Аб шанцах на рэалізацыю Пагаднення аб малым памежным руху Беларусі з Польшчай:

— Малаверагодна, каб гэта адбылося хутка. Аналагічнае пагадненне заключана паміж Беларуссю і Латвіяй, але каб у яго рамках атрымаць дазвол на перасячэнне мяжы, патрэбны яшчэ спецыяльны дазвол сельсавета. Беларусь у цэлым кантралюе гэтае пагадненне. Як кажуць жыхары памежных мясцовасцей у Латвіі, для іх лепшымі былі б шэнгенскія візы. На шчасце, у пагадненні з Польшчай няма такога запісу.

І як быццам у спасылцы на гэтую тэму, значыць, вальнейшага перасякання меж з ЕС:

— Нават Лукашэнка хоча ўвесці «падатак ад беспрацоўя» для тых, хто не працуе ў Беларусі. Гэта рэакцыя на недахоп працоўнай сілы. Ён даў нават забарону звальняць людзей з дрэваапрацоўчых заводаў.

Адразу ж пасля гэтага дадаў:

— Лукашэнка навучыўся кіраваць з адкрытымі межамі, што не абазначае, што будзе змагацца за перамены, тым больш пры такой пасіўнасці грамадства. Паездкі беларусаў за мяжу не павялічаюць іх бавога духу. Тым не менш, я лічу, што польскія «Ашан» ці «Божая кароўка» могуць паказаць, што тут жыццё лепшае.

Ён спаслаўся таксама на праблемы, якія маюць беларусы з атрыманнем віз у польскіх консульскіх установах:

— Большасць шэнгенскіх віз беларусы атрымліваюць ад польскага боку. Гэтых праблем, аднак, польскае міністэрства замежных спраў не ўмее вырашыць у цывілізаваны спосаб, у прыватнасці звязаных з неабходнасцю электроннай рэгістрацыі. Каб паспець зарэгістравацца ў гэтай сістэме, трэба заплаціць нанятаму інфарматыку 150-200 еўра. Хто кантралюе інфарматыкаў? Польскае МЗС не можа справіцца з гэтай праблемай і беларускія ўлады выкарыстоўваюць гэта прапагандысцка, нават намякаючы на карупцыю. Рашуча палепшыць сітуацыю выдача віз на больш чым год, напрыклад, на пяць гадоў.

Анджэй Пачобут не выключае выдання кнігі ў Беларусі ў перакладзе на беларускую мову, хоць ён прызнаўся ў Беластоку, што могуць з гэтым быць праблемы:

— У цяперашні час знішчаецца адно з самых важных незалежных выдавецтваў у Беларусі — «Логвінаў».

Адразу пасля публікацыі кнігі «Сістэма Беларусь» у Польшчы з'явіўся шэраг яе аглядаў. Марэк Буцька, былы дыпламат у Беларусі, ад Фонду «Свабода і дэмакратыя», адзначыў:

— Гэта ашаламляльная доза фактаў, пераплеценая змрочнай логікай дыктатуры. Аўтар агольвае палітычнае і маральнае закулiссе дзейнасці сістэмы Беларусі, паказваючы яго таксама з пункту гледжання звычайных людзей, якія жывуць у ёй. Гэта першае падрабязнае і дакладнае апісанне механізму прыгнёту і дэградацыі, які на працягу 20 гадоў царыць за межамі нашай усходняй мяжы.

Марыя Пшэломец, аўтарка і вядучая праграмы «Студыя ўсход» у TVP Info адзначыла:

— Гэтая кніга, як добры палітычны трылер — паказвае бязлітасную барацьбу за ўладу, інтрыгі, таямнічыя забойствы, спрыт галоўнага героя, спраўна маніпулюючага не толькі навакольным асяроддзем і сваім народам, але і суседняй імперыяй. Гісторыя чалавека, які змагаецца за ўладу да канца. Пытанне толькі чыйго — Аляксандра Лукашэнкі, ці Беларусі?

На жаль, падчас сустрэчы ў Беластоку кнігу немагчыма было купіць.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Забыты вернісаж



**Хаця кніга выйшла друкам у 2012 г., толькі гэтым летам удалося мне яе набыць падчас VI З'езду беларусаў свету „Бацькаўшчына" на прылаўку „Гарадзенскай бібліятэкі". Добра здарылася, што кандыдацкая дысертацыя Наталлі Маліноўскай-Франке, абароненая ў 2009 г., даволі хутка (праз тры гады) паказалася ў кніжным выглядзе — у цвёрдай каляровай вокладцы, на добрай паперы, з 24 каляровымі рэпрадукцыямі карцін (не пры ўсіх пададзены іх сапраўдныя памеры). Прыемна так аформленую кнігу ўзяць у рукі і з ахвотай пачаць яе чытаць.**

Тое, што выклікала маю асабістую цікаўнасць, гэта засяроджанне тэмы на рэгіянальным вымярэнні. Цікава было ведаць, як аўтарка справілася з паняццем Гродзеншчыны (Гарадзеншчыны) як рэгіёна — сучаснай вобласці, даўняй Гродзенскай губерні, ці кіравалася яшчэ нейкімі іншымі прынцыпамі. Вядома, што мастакі — непаседлівыя душы і прывязаць іх да аднаго месца цяжка. Аднак усё ж такі недзе яны нараджаюцца, недзе вучацца мастацтву і недзе ж маюць свае майстэрні, у якіх паўстаюць іхныя творы. Здаецца, гэтыя тры крытэрыі найбольш акрэсліваюць рэгіяналізм мастацтва, хаця вядома, што мастацкія творы існуюць перш за ўсё з прычыны іх універсалізму, якім у выпадку мастацтва з'яўляецца прыгажосць ды агульныя пэўныя вартасці. Таму і месца іх паказу і захоўвання неабыякавае для рэгіянальнага вымярэння мастацтва.

Аўтарка, гаворачы пра Гродзеншчыну, сягае да сярэднявечнага Гродзенскага княства, каб паказаць, што „Гродна і Гродзеншчына — своеасаблівы рэгіён Беларусі, у якім гісторыка-палітычная сітуацыя абумовіла спецыфічны шлях фармавання нацыянальнай культуры, у тым ліку і мастацкай" (с. 22). Шкада, што аўтарка выразна не падкрэсліла палітычнай прыналежнасці Гродзенскага рэгіёна да Першай сусветнай вайны і пасля яе, калі знаходзіўся ён у розных дзяржавах — у Расійскай імперыі і ў Польшчы. Не зусім ясная для мяне часавая мяжа 1918 г. у адным з раздзелаў (с. 59). Чым гэты год адметны ў мастацтве і ў рэгіянальным яго размежаванні? Фактычна, у перыяд Першай сусветнай вайны цяжка катэгарычна прымаць нейкія часавыя рамкі. Фармальна ў палітычным плане вызначыў іх Рыжскі мірны дагавор 1921 г. Але калі ідзе пра мастацкае жыццё, здаецца, важнай падзеяй быў захоп Вільні польскім войскам у красавіку 1919 г., што спрычынілася да адкрыцця Віленскага ўніверсітэта, а ў ім — мастацкага факультэта, куды пацягнулася таленавітая моладзь, м.інш. Пётра Сергіевіч.

Чытаючы кнігу, складаецца ўражанне, што аўтарка да згаданага перыяду (1860-1939) адносіць сучаснае адміністрацыйнае паняцце Гродзеншчыны (як Гродзенскай вобласці), уводзячы ў рэгіён часткі гістарычнай Віленшчыны і па-за ўвагай пакідаючы тыя часткі Гарадзеншчыны, якія пасля Другой сусветнай вайны апынуліся ў Польшчы.

Калі ўжо мова пра геаграфію, варта звярнуць увагу, што аўтарка, пішучы пра канец XIX і пачатак XX стст., карыстаецца тэрмінам „мастацтва Польшчы" (с. 57-58, 60, 69). Вядома, што такой дзяржавы тады не існавала. Польшча была падзеленая паміж Расію, Прусію і Аўстра-Венгрыю.

Кніга вартасная перадусім тым, што ўводзіць „імёны многіх мастакоў, якія ў свой час адыгралі значную ролю ў мастацкім і культурным жыцці як Гродзеншчыны, так і ўсяго Віленскага краю", а ў сувязі з рознымі палітычнымі і дзяржаўнымі пераменамі былі забытымі. Найбольш пра іх пішацца ў частках „Пошукі і здабыткі" (с. 61-96) і „Стылістычныя навацыі і аўтарскі стыль" (с. 127-144). Аўтарка найбольш месца адводзіць Марыі Гажыч (1860-1936) (с. 67-75, 140-142); Станіславу Жукоўскаму (1875-1944) (с. 75-82, 127-135); Луцыі Балзукевіч (1887-1976) (с. 82-85, 142-143); Казіміру Стаброўскаму (1869-1929) (с. 86-89). Прыклад гэтых, годных найбольшай увагі аўтаркі мастакоў, паказвае на розныя іхнія сувязі з Гродзеншчынай. Марыя Гажыч (ці не самае яркае адкрыццё аўтаркі?) нарадзілася ў сібірскай Вішэры, вучылася ў Варшаве ў школе Войцеха Герсана, у Акадэміі Жуліян у Парыжы, у Мюнхене. Працавала пераважна ў бацькоўскім маёнтку Сегянёўшчына на Ваўкавышчыне і ў маёнтку мужа Тапаляны на Пружаншчыне. Сёння яе 6 абразоў рэлігійнай тэматыкі знаходзяцца ў гродзенскім кляштары назарэтанак.

Луцыя Балзукевіч, з вядомага роду віленскіх мастакоў, у 1934 г. выканала для касцёла ў Новым Двары (Шчучынскі раён) абраз св. Губерта, які захоўваецца ў ім да сёння і заінспіраваў аўтарку да пошукаў яшчэ з сярэдзіны 90-х гадоў XX ст. „Тады гэты абраз зачараваў таямнічасцю, прыгажосцю, нейкай недасказанасцю і гэтым пазбавіў мяне спакою. Мае спробы знайсці якія-небудзь звесткі пра твор засталіся безвыніковымі. Мясцовы ксёндз сказаў, што ў касцёле была дзяржаўная камісія па ацэнцы каштоўнасцей храма, але нічога каштоўнага знойдзена не было. На абраз таксама не звярнулі ўвагі. Але інтуіцыя падказвала, што твор мае не толькі гісторыка-культурную, але і мастацкую вартасць. Проста не было ўсведамлення гэтай каштоўнасці. Таму і ўзнікла ідэя звярнуцца да вывучэння жывапіснай спадчыны Гродзеншчыны, да збору забытых ці неўсвядомленых каштоўнасцей у творчасці жывапісцаў рэгіёна, якому лёсам было наканавана знаходзіцца на скрыжаванні культур, веравызнанняў і межаў. (...) Таму невыпадкова збор матэрыялу пачаўся менавіта ў Новым Двары, куды праз дзесятак гадоў я вярнулася разам з мастацтвазнаўцамі Яўгенам Шунейкам і Тацянай Маліноўскай. (...) Гэта быў пачатак цікавага падарожжа ў краіну мастакоўскіх твораў і лёсаў, знітаваных са своеасаблівай гісторыяй Бацькаўшчыны" (с. 4).

У самым Гродне ў згаданы перыяд не паўстала свая мастацкая школа — горад знаходзіўся на правінцыі ці то расійскай, ці польскай дзяржаў. Выходцы з Гродзеншчыны ды з іншых беларускіх земель, з мастацкімі схільнасцямі, вымушаны былі вучыцца ў вядомых на той час мастацкіх школах Вільні, Варшавы, Кракава, Пецярбурга, Парыжа, Мюнхена, прывозячы адтуль своеасаблівыя стылі і моды.

У апошняй частцы кнігі аўтарка змясціла кароткі біяграфічны слоўнік жывапісцаў Гродзеншчыны (1860-1930 гг.). Прадставіла ў ім 56 біяграфій (с. 145-163). Гэта і не так шмат, калі ўлічыць перыяд амаль 80 гадоў. Аналізуючы біяграфіі, аказваецца, што многія з іх нічым з Гродзеншчынай не былі звязаны. Адносіцца гэта і да мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта (УСБ) у міжваенны перыяд. Праўда, вучыліся на ім выхадцы з Гродзеншчыны, але вучыліся і ў Кракаўскай, і ў Варшаўскай мастацкіх акадэміях. Пераглядаючы фонд мастацкага факультэта УСБ, натрапіла я на студэнтаў звязаных з Гроднам, якіх чамусьці аўтарка абмінула, пішучы пра мастацкі факультэт: Лідзію Байдзінскую (нар. 12.10.1906 г. у Варшаве, у 1926 г. закончыла жаночую гімназію Э. Плятэр у Гродне, беларуска па нацыянальнасці, бацькі жылі ў Гродне па вул. Ерусалімскай); Анну Мізевіч (нар. 5.11.1906 г. у Блудзені каля Бярозы Гарадзенскай зямлі — як сама паведамляла ў 1927 г., паступаючы на мастацкі факультэт УСБ, беларуска па нацыянальнасці); Зою Чарвякоўскую з Гродна (нар. 12.10.1908 г. у сяле Грэнад'ерскім на Закаўказзі, закончыўшай Дзяржаўную жаночую настаўніцкую семінарыю ў Гродне, у 1929 г. падавала гарадзенскі адрас вул. Станіслаўоская 5, беларуска па нацыянальнасці). На жаль, нічога пра іх аўтарка не ўспамінае. Можа варта было б пацікавіцца як склаўся іх лёс...

Фердынанд Рушчыц, народжаны і памерлы ў Багданаве на Ашмяншчыне, дэкан мастацкага факультэта УСБ хутчэй належыць гістарычнай Віленшчыне, чым Гродзеншчыне. Тое ж самае можна сказаць і пра Людаміра Сляндзінскага ды яговых вучняў Козьму Чурылу, Міхала Сеўрука, Льва Дабжынскага. Маёнтак апошняга, Лоша, дзе ў 1930-я гады адбываліся мастацкія пленэры, знаходзіўся на Віленшчыне, а ў выніку Другой сусветнай вайны апынуўся па абодва бакі мяжы — частка ў Літве, частка — у Беларусі (зараз у межах Гродзенскай вобласці — Астравецкі раён). Козьма Чурыла, якога аўтарка чамусьці заве Кузьмой, звязаны з Нясвіжам і з Віленшчынай. Пры тым за слоўнікам *Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działających (zmarłych przed 1966 rokiem). Malarze, rzeźbiarze, graficy*, якога сем тамоў выйшла на працягу 1970-2003 гг., пададзеныя памылковыя даныя наконт яго адукацыі (быццам бы вучыўся ў Навагрудку) і смерці (быццам бы ў Торуні). Гадамі шукаючы слядоў Козьмы Чурылы, апублікавала я ў „Нашай веры" (2008, № 3, с. 58-62) пра яго артыкул („Мастак з Крутога Берагу"), у якім усе недарэчнасці былі выпраўлены. Не ўспамінаю пра мае артыкулы пра Чурылу, апублікаваныя ў Польшчы і ў Літве. Некаторыя з іх можна нават знайсці ў інтэрнэце. Дарэчы, такіх бібліяграфічных недахопаў у працы значна больш. І не справа тут у маіх публікацыях (пра Льва Дабжынскага, Язэпа Фарботку, Пётру Сергіевіча, Пётра Жынгеля, Антона Каменскага), якія нешта новага ўносяць у гэтыя творчыя біяграфіі, але і ў іншых, напр. Арсеня Ліса пра Паўла Южыка. Незразумела для мяне, чаму ў біяграфічным слоўніку не хапіла месца для Пётры Сергіевіча, якога ў кнізе аўтарка ўспамінае як аўтара сакральнага жывапісу і фрэскаў у касцёлах Гродзеншчыны ды аўтара партрэта кс. Станіслава Глякоўскага (с. 143-144). У 1930-я гады шмат ён працаваў на Гродзеншчыне і шмат што з яго прац засталося там да сёння. У 2005 г. яшчэ віселі яго вялізныя карціны (з 1936 г.) у касцёле ў Ваўкавыску. Здаецца, мне ўдалося стрымаць няўдалую рэстаўрацыю яго фрэскаў у касцёле ў Солах, якія, паводле тамтэйшага ксяндза, маляваў „нейкі рускі багамаз". У Смаргоні на хвалі рамонту касцёлаў у пачатку 1990-х гадоў бяскарна былі замаляваны яго працы на біблейскія тэмы. А ці захаваліся яго карціны ў бернардынскім касцёле ў Гродне? У Каменцы ў капліцы сясцёр міласэрнасці захоўваюцца яго дзве карціны Езуса Міласэрнага і Маці Божай. Шкада, што ў кнізе не хапіла месца на хоць адну рэпрадукцыю прац Пётры Сергіевіча, хаця б Маці Божай Поразаўскай, пра якую ўспамінае аўтарка (с. 143). Мастак праводзіў таксама рэстаўрацыйныя працы ў касцёлах Гродзеншчыны і сабраў цікавыя экспанаты для Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Нават беручы пад увагу тое, што ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі захоўваецца яго карціна „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў", варта не забываць пра сувязі яго з Гродзеншчынай.

Сярод мастакоў XVIII ст. упамінаецца Антон Грушэцкі, толькі не як супрасльскі манах і мастак. Пра яго спадчыну на Гродзеншчыне цікавы артыкул напісаў Андрэй Рышкевіч у штогодніку „**Rocznik Białostocki**" за 1963 год. Манаграфія пра мастака напісаная перад Другой сусветнай вайной Хведарам Ільяшэвічам, на жаль, загінула і трэба мець надзею, што некалі знойдзецца.

Сярод мастакоў пераломy XIX і XX стст. успамінаецца ў кнізе Антон Каменскі (с. 48, 51, 99), вядомы ілюстратар кніг Сянкевіча, Рэйманта, Ажэшкі і аўтар іхніх партрэтаў. На жаль, памылкова яго прозвішча падаецца як Камінскі. Аднойчы падчас наведвання касцёла ў Лунне на Гродзеншчыне я даведалася пра сувязі з гэтай мясцінай мастацкай сям'і Ромераў. У касцёле знаходзіцца табліца ў гонар Эдварда Матэуша (у кнізе чамусьці Мацей — с. 156) Ромера, які памёр 22 лютага 1900 г. у Лунне (жыў там пастаянна тры апошнія гады жыцця — глядзі: „Tygodnik Ilustrowany", nr 13, 31(18).03.1900 г., с. 248). Нават пабачыла там абраз св. Ганны. Ці не Ромера яна? Ніхто не быў у стане адказаць на гэтае пытанне. Ці яна далей захоўваецца ў касцёле? Чамусьці аўтарка не ўспамінае Лунну, толькі Каралінава (у сапраўднасці на Віленшчыне, хаця зараз у межах Беларусі). Аказваецца, што ў выданні *Polski Słownik Biograficzny* аўтарка яго біяграмы чамусьці Лунну замяніла на Луніну і змясціла яе ў межах Ігуменскага павета. І, відаць, Наталлі Маліноўскай не хапіла дапытлівасці, каб пашукаць яго слядоў на Гродзеншчыне. А хапіла з'ездзіць у касцёл у Лунне і адкрылася б аўтарцы яшчэ адна ці не найбольш заслужаная для Гродзеншчыны мастацкая постаць...

У кнізе неаднойчы ўпамінаецца Хелена Ромер, толькі чаму яе імя пішацца праз „Х", а не „Г" (с. 42, 93). Складаецца ўражанне, што пры напісанні імён ці прозвішчаў, у якіх на польскай мове ёсць гук „h", на беларускай мове перадаецца ён адвольна як „г" або „х". І атрымліваецца Х. Куна замест Гэнрык Куна, Е. Мэхофер замест Е. Мэгофэр, Е. Хопэн замест Ежы Гопэн, Уласціміл Хофман замест Гофман, хаця — Язэп Горыд (нар. у Адэсе, а не ў Вільні; загінуў пад Варшавай, а не пад Вільняй) ці Вейсенгоф Генрых (не Хенрых). Мабыць гэта дробязь, але ж, на маю думку, паслядоўнасці тут не хапае.

Чытаючы кнігу, варта зазіраць у спасылкі на крыніцы. І тут я ў многіх месцах расчаравалася — аўтарка цытуе „Tygodnik Ilustrowany", „Kurier Codzienny", „Kraj", „Kurier Warszawski", „Kurier Poranny", а ў спасылцы пазначана штo другое. Гэта ўсё не так цяжка праверыць, бо гэтыя газеты і часопісы даступныя ў бібліятэках.

У спісе выкарыстаных крыніц (с. 166-190) прадстаўлена 151 пазіцыя кірылічнага шрыфту (беларускамоўныя і рускамоўныя) і 174 — лацінскага (найбольш польскамоўных). Сярод іх і архіўныя матэрыялы, і манаграфіі, і артыкулы, і альбомы, і каталогі выставак. Шкада, што аўтарка іх не сістэматызавала паводле такога парадку. Сумненні выклікае алфавітная чарговасць спісу крыніц лацінскім шрыфтам: Garlińska перад Fałtynowicz, Jodkowski перад Inspiracje, Marian Bohusz перад Maria Gażycz, Ryszkiewicz перад Ruhberg, Tomalska перад Tatarkiewicz, Wystawa перад Wölfflin і г.д. Бібліяграфію можна было б дапоўніць яшчэ каталогамі выставак і асобнымі публікацыямі.

Нягледзячы на ўсе заўвагі, з кнігай варта пазнаёміцца, хаця б беручы пад увагу шмат цікавых звестак з мастацкага жыцця ў 1860-1939 гг., а без творчых здабыткаў мастакоў „не можа быць поўнага ўяўлення пра жывапіс Гарадзеншчыны і Беларусі".

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

Наталля Маліноўская-Франке, *Забыты вернісаж. Творчасць мастакоў Гродзеншчыны 1860-х — 1930-х гг.*, Мінск 2012, 190 с.

# Восень паэзіяй размаляваная

Да культурнай падзеі, якая адбылася ў Крынках 26 кастрычніка, рыхтаваліся доўга і сур'ёзна. Заўсёды рада гасцям дырэктар Крынскага дома культуры Альжбета Чарэмха некалькі дзён і начэй наводзіла парадкі, рыхтавала адмысловую асеннюю дэкарацыю і, канешне, цёплую страву ўсім, якія ў той дзень збіраліся наведаць яе ўстанову. Менавіта ў яе гаспадарстве — каўказскай сінагозе па вуліцы Пілсудскага прайшоў ужо трэці выпуск Падляшскага агляду аўтарскай песні людзей з абмежаваннямі «Восень паэзіяй размаляваная».



Традыцыйна ўжо яе галоўным арганізатарам з'яўляецца мясцовае Аб'яднанне ў карысць людзей з абмежаваннямі і сацыяльна выключаных «Драбіна». Гэта сапраўды незвычайнае і рэдкае свята. Дзе яшчэ на адной сцэне сустракаюцца людзі ўсякага ўзроўню інтэлектуальнага і фізічнага развіцця? Ці дзе-небудзь яшчэ ў адным фестывалі прымаюць удзел чатырох- і васьмідзесяцічатырохгадовыя артысты? Тут для іх ствараецца магчымасць, між іншым, прэзентацыі ўласнага музычна-паэтычнага таленту і дасягненняў, абмену досведам, завязання новых знаёмстваў.

Восеньскія барды спаборнічалі ў гэтым годзе ў дзвюх катэгорыях: салісты і калектывы. Акрамя таго іх падзялілі на тры групы: 1) невідучыя, дрэнна бачучыя, лёгка абмежаваныя фізічна і інтэлектуальна; 2) сярэдне, значна і глыбока абмежаваныя інтэлектуальна; 3) дзеці і моладзь у інтэлектуальнай норме.

Асабістае запрашэнне старшыні «Драбіны» Анны Галкі да ўдзелу ў згаданым фестывалі прынялі, між іншым, Дом сацыяльнай дапамогі ў Беластоку, Майстаркласы заняткавай тэрапіі ў Новай Волі і Асяродак падтрымкі людзей з псіхічнымі расстройствамі ў Лазнях.

Большасць удзельнікаў з крынскім фестывалем звязана ад самога пачатку. З радасцю туды вяртаюцца, як самі кажуць, з-за незвычайнай атмасферы. «І паспяваць тут можна, і пасядзець за адным сталом», — прызнаецца з хваляваннем падапечная Беластоцкага дома сацыяльнай дапамогі Зіна Садоўская, якой ужо за восемдзесят гадоў пераваліла.

На сцэне не забракавала таксама крынскіх спевакоў. Акрамя падапечных Анны Галкі паказаліся тут салісты з мясцовай школы і садзіка. Усе яны выдатна прычыніліся да стварэння сапраўды інтэграцыйнай атмасферы. «Гэта ўсё нармальна, — кажа нашаму тыднёвіку школьніца Эмілька Крыштаповіч. — Кожны з нас мае нейкія абмежаванні і мусім з гэтым неяк змагацца».

«Любім спяваць, а тут маем нагоду выступіць перад публікай», — гаворыць Эмілька Гудалеўская. Каміля Бараноўская, пераможніца сёлетняга конкурсу, штодзень слухае песень Эдыты Геперт і Марка Грахуты, таму на «Восені паэзіяй размаляванай» адчувае сябе як рыба ў вадзе. Ёй таксама спадабалася выступленне маладой «Заранкі» з мясцовага аб'яднання «Тэрра інкогніта». Песні і танцы дзяцінства бабуль і прабабуль настолькі кранулі яе сэрца, што захацела паспрабаваць сваіх сіл у маладым калектыўчыку.

Не падвялі ні добры настрой, ні фестывальная публіка. Пад сцэнай сабраўся камплект гледачоў, сярод якіх былі бурмістр Крынак Багдан Панасюк і старшыня Гарадской рады Аліцыя Трызна. «Ці ёсць шанцы на працяг фестывальнай ідэі?» — з такім пытаннем звярнуўся наш тыднёвік да галоўнага арганізатара свята Анны Галкі. «Я вельмі задаволена, што столькі людзей мне дапамагае, — гаворыць яна. — Перадусім хачу падзякаваць дырэктар Крынскага дома культуры за яе добрае сэрца і адказнасць. Агромная фінансавая падтрымка надышла да нас з Рэгіянальнага асяродка сацыяльнай палітыкі ў Беластоку, дзякуючы якому ўсім выканаўцам былі ўручаны добрыя ўзнагароды. Цешуся, што кожны год далучаюцца новыя ўдзельнікі, а старыя вяртаюцца. Калі будуць фінансы, будзе і фестываль».

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




Сённяшні свет — гэта свет лагатыпаў, брэндаў, кідкіх выяваў, зазывальных слоганаў. Каб нейкім чынам быць заўважаным, захавацца ў памяці людской хаця б на невялікі тэрмін, варта як мага ярчэй і прываблівей пазначыць сябе. Тыя, хто гэта здолеў зрабіць, маюць больш шанцаў на камерцыйны поспех. Зразумела, каб зрабіць цікавы брэнд ці лагатып, трэба як след паруліцца. Калі ж стае грошай, то, магчыма, лепей звярнуцца да спецыялістаў-дызайнераў ці да тых, хто сябе за такіх выдае, бо не заўсёды маецца магчымасць адразу ўсё аб іх дасканала праверыць.

У свеце існуе процьма дызайнерскіх студый, дзе на вашую замову вырабяць што заўгодна. Па вялікім рахунку, адны ад іншых не надта адрозніваюцца, і ўсё залежыць ад крэатыўнасці дызайнера. Тут усё вельмі проста — добры дызайнер — больш крэатыўнасці, дрэнны — менш. Таму нават кожнай дызайнерскай студыі трэба нешта рабіць, каб неяк прыцягнуць увагу патэнцыйных кліентаў менавіта да сябе. У Беларусі ў гэтым сэнсе ёсць вялікая палёгка — дастаткова заявіць пра сябе па-беларуску і цябе заўважаць.

Адным з прыкладаў такога простага, але надзейнага спосабу прыцягнення кліентаў з'яўляецца арт-студыя „Прас". Зайшоўшы на яе сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://pras.by, пэўна, кожны карыстальнік затрымаецца там па меншай меры на некалькі хвілін. А гэта ўжо даволі многа ў свеце жорсткай канкурэнцыі.

Калі мы зазірнем на галоўную старонку сайта, то ў вочы кідаецца выява старадаўняга цяжкага праса, які сто гадоў таму награвалі жарам для таго, каб пагладзіць бялізну ці іншыя рэчы. На аснове выявы праса зроблены і выйсці на чатыры іншыя рубрыкі сайта, якія месцяцца ўверсе выяўлення. Ніжэй размешчаны прыклады выкананых дызайнерскіх праектаў.

„Арт-студыя «PRAS» — гэта кампанія, якая займаецца найперш web-дызайнам, прыкладным праграмаваннем, кампутарнай графікай і сучаснай інтэрактыўнай рэкламай. Мы арыентуемся на новыя тэхналогіі і свежыя павевы ў дызайне, часта самастойна ствараючы трэнды візуальнай культуры. Калі вы лічыце, што стаяць на месцы — дрэнны знак, — вам дакладна да нас! Тым часам, само слова „прас" — гэта інструмент, якім добрая гаспадыня ператворыць купу камечаных рэчаў у прывабную вопратку..., — заклікаюць да сябе беларускамоўныя вэб-дызайнеры на старонцы „Пра PRAS". — Калі казаць канкрэтней, мы робім сайты, мабільныя дадаткі, гульні, інтэрактыўную рэкламу, а таксама ствараем прадукты саўнд-дызайну, паліграфіі ды айдэнтыкі".

Пры гэтым яны, як дарэчы і іншыя, абяцаюць да кожнага праекта замоўцаў ставіцца „як да свайго, як да твора мастацтва".

Вельмі цікавае выяўленне месціцца ніжэй гэтага расповеду пра сябе. Там знаходзіцца выява падзеленага на мноства частак праса. Кожная з іх, калі клікнуць мышкай, раскрывае больш падрабязную інфармацыю аб тым, што робяць гэтыя „прасаўнікі".

Калі ў карыстальніка ёсць жаданне пазнаёміцца, што ж выканалі дызайнеры „Праса", то варта зайсці на старонку „Праз PRAS". А ў рубрыцы „Разам з PRAS'ам" яны даюць свае кантакцы і кажуць, што „гатовы супрацоўнічаць з усімі, хто каштаваў бульбу і не баіцца свежых ідэй".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Расстраляны геній

# 130 гадоў з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага



Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Вацлаў Ластоўскі нарадзіўся 8 лістапада 1883 года ў засценку Калеснікаў Дзісенскага павета (сёння Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) у сям'і беззямельнага шляхціца. Гэта быў выдатны чалавек многіх талентаў — ён выявіў сябе як гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец. Шматгранная асоба Ластоўскага развівалася б і далей, каб не гвалтоўна абарванае жыццё ў савецкіх катавальнях.

Вацлаў юнаком скончыў на радзіме Пагосцкую пачатковую школу. Пасля непрацяглы час вывучаў лацінскую мову ў свайго дзядзькі Францішка Ластоўскага. У 1896 годзе, прайшоўшы пехатой 70 вёрст да чыгункі, Ластоўскі з'ехаў у Вільню. Працаваў хлопчыкам на паслугах у вінных крамцы, канцылярыстам у Шаўлях, бібліятэкарам у студэнцкай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу, дзе наведваў лекцыі ва ўніверсітэце. Уступіў у Польскую сацыялістычную партыю. Працаваў канторшчыкам на таварнай станцыі ў Рызе. Далучыўся да беларускага нацыянальнага грамадскага і культурніцкага руху. У 1906-1908 гадах уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. У 1906 годзе быў арыштаваны за сацыялістычную прапаганду і сядзеў некалькі месяцаў у турме.

З 1909 года быў сакратаром рэдакцыі «Наша ніва» і загадчыкам першай беларускай кнігарні (Вільня, вул. Завальная, 7), у 1916-1917 гадах — рэдактар газеты «Гоман», у 1918 годзе выдаваў газету «Krywičanin». У канцы 1918 года ўзначаліў прадстаўніцтва ўрада БНР пры літоўскай Тарыбе, быў беларускім аташэ пры літоўскім пасольстве ў Берліне. З 1919 года — у партыі беларускіх эсэраў, са снежня 1919 года да красавіка 1923 года ўзначальваў Раду Міністраў БНР, быў яе прэм'ерам.

Удзельнічаў у арганізацыі вызвольнага партызанскага руху ў Заходняй Беларусі, быў старшынём Сувязі нацыянальна-дзяржаўнага вызвалення Беларусі. Быў арыштаваны і зняволены польскімі ўладамі. У 1920 годзе яму дазволена выехаць у Літву. У красавіку 1923 года выйшаў з урада БНР і адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Выдаваў у Коўне літаратурна-навуковы часопіс «Крывіч» (1923-1927).

У красавіку 1926 года пераехаў у БССР, спадзеючыся на стваральную працу на карысць радзімы. У 1927 годзе ўрад БССР дазволіў яму вярнуцца ў Менск. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. З 1928 года Вацлаў Ластоўскі быў акадэмікам і сакратаром Інбелкульта і Акадэміі навук БССР.

У 1930 годзе, у час экспедыцыі ў Сібір, Ластоўскага арыштавалі па справе «Саюза вызвалення Беларусі», пазбавілі звання акадэміка і выслалі на 5 гадоў у Саратаў. Там ён працаваў загадчыкам аддзела рэдкай кнігі ва ўніверсітэцкай бібліятэцы. Паўторна арыштаваны ў 1937 годзе і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. 23 студзеня 1938 года яго расстралялі. Па першым прыгаворы быў рэабілітаваны 10 чэрвеня 1988 года, па другім — у 1958 годзе.

Ластоўскі пакінуў унікальную спадчыну, адзін яго «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік»варты працы цэлага навуковага інстытута. Напісана ж пра выдатнага дзеяча і навукоўца не так шмат. Можна прыгадаць кніжку Язэпа Янушкевіча «Неадменны сакратар Адраджэння». У 2012 годзе ў Глыбокім быў усталяваны бюст Вацлава Ластоўскага. Вуліц з яго імем у Беларусі дагэтуль няма.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Тэлефанічныя гульні

Хіба не толькі мяне, але і іншых уладальнікаў стацыянарных тэлефонаў пераследуюць апошнім часам розныя тэлефонныя загоншчыкі. Добра, калі прапануюць прыняць удзел у нейкім паказе — тады папросту дзякую ім за памяць, кажу, што самастойна не рухаюся (хаця гэта няпраўда, але дапамагае) і выказваю шкадаванне, што я вымушаны ад такой прыемнасці і абяцаных сувеніраў адмовіцца. І ветліва расстаемся. Сапраўдным няшчасцем з'яўляюцца тэлефоны ад розных аператараў сувязі, якія абавязкова хочуць мне панізіць абанемент або спакусіць прамоцыямі. Вылучаецца ў гэтым фірма „Польская тэлекамунікацыя", з якой я расстаўся некалькі гадоў таму пасля працяглага рабства.

Карыстаючыся старымі тэлефоннымі кніжкамі, звоняць мне пераважна пытаючыся пра людзей, якія жылі тут 15 гадоў таму. Ужо гэта сведчыць аб балагане, які пануе ў фірме, і адразу выклікае недавер да яе з майго боку. Але прыгнятальным з'яўляецца інтэлектуальны стан паненак, якія працуюць для гэтай фірмы.

Нядаўна пазваніў тэлефон і я традыцыйна сказаў у трубку: „Калі ласка, слухаю". Голас у мяне мужчынскі (барытон), але на маё здзіўленне тэлефаністка спытала: „Ці я размаўляю са спадарыняй Аннай К.?". Я здзіўлены адказаў: „А як думаеце — вы размаўляеце...", аднак я не даведаўся, што яна думае, бо без слова спыніла размову.

Крыху пазней, для разнастайнасці, дзяўчо (шкада, што не ўдаецца мне запомніць імя і прозвішча адрэкамендаваўшыхся тэлефаністак) спытала мяне: „Ці са спадаром К.?"... І цішыня. Дзеяслоў не прагучаў. Тады пытаю: „Што са спадаром К.? Вы хацелі легчы з ім у ложак?" — ну бо я не ведаю ў чым справа, яна ж не назвала дзеяння. І зноў, ідыётка, разлучылася.

Калі аператары сувязі для першага кантакту з магчымымі кліентамі прызначаюць такіх бяздумных істот, то я пакідаю за сабою права меркаваць, што да мяне ставяцца як да дэбіла, які ўсё каўкне і захопіцца прапанаванай прамоцыяй. Ну, але не са мною такія штучкі.

Прадавачкі ў Сямятычах ужо адвучыліся пытацца ў мяне: „У чым вам дапамагчы?", бо заўсёды чулі ад мяне канкрэтны адказ. А дапамагчы мне можна ў прыгатаванні абеду, змыванні посуду, прыбіранні хаты ці мыцці спіны... што я ім шчыра гаварыў, залежна ад актуальнай патрэбы. Але неяк ніводная дапамогі мне не аказала, затое ўжо перасталі мною так клапаціцца. А ці неразумных тэлефаністак таксама здолею чамусьці навучыць? Сумняваюся. Рэсурсы дурноты ў нашай краіне аграмадныя, а ўвесь час рэфармаваная школа штогод выпускае новыя кадры.

**М. Ц.**

# Сустрэча ў Плянце

Справа: Тадэвуш Кунцэвіч і радны Нараўчанскай гміны Ян Драўноўскі

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) ёсць шмат прыгожых святліц, між іншым, у Альхоўцы, Старым Ляўкове, Ахрымах, Міхнаўцы, Нараўцы, Семяноўцы, Гушчэвіне, Заблотчыне, Міклашэве, Тарнаполі. Іх рамантавалі і ў некаторых пабудавалі камінкі. Зараз восенню ля іх цёпла і яны ствараюць своеасаблівую атмасферу ды папраўляюць настрой.

Напрыканцы мінулага года адкрылі прыгожую святліцу ў Плянце. Вечарам 7 кастрычніка г.г. у ёй арганізавалі сустрэчу з жыхарамі гэтай вёскі солтыс Аляксей Врублеўскі і новая дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент. Была кава, гарбата і салодкае піражнае для ўсіх. Удзельнічалі ў мерапрыемстве радны гміны Ян Драўноўскі і солтыс суседняй вёскі Новае Ляўкова Ян Целушэцкі.

Была гэта першая такога роду сустрэча ў новай святліцы. Калі абмяркавалі арганізацыю культурных мерапрыемстваў да канца года, далі голас паэту Тадэвушу Кунцэвічу з Лешукоў. Ён расказаў пра свае аўтарскія сустрэчы (апошнім часам у Трасцянцы) і прачытаў свае гумарыстычныя вершы. Яны ўсім спадабаліся. Т. Кунцэвіча запрасілі на чарговую сустрэчу. Ён абавязаўся напісаць верш пра Плянту.

Да канца 2013 года ў Плянце выступяць са сцэнічным творам вучні нараўчанскай школы. Будзе вечар калядак.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Солтысы і справы вёскі

Спыталі мы солтысаў пра праблемы, вырашэнне якіх паспрыяла б таму, што на вёсках стала б лепш жыць.

Солтыс вёскі Залешаны Ядвіга Грыка задаволеная, што дачакалася асфальтавай маставой цераз усё сяло. Яе нядаўна здалі ў карыстанне. Вёска налічвае 59 жыхароў і ў мінулым годзе ў адной сям'і нарадзілася дзіця. Зараз сяло на дэмаграфічным плюсе.

Клопат солтыс Галіны Раманюк з Патокі (налічвае яна 55 жыхароў) гэта перш-наперш рамонт дарог з Патокі ў Тапаляны, а таксама ў Малынку. Вельмі патрэбны асфальт на дарозе ў Тапаляны. Затрымка выйшла з перабудовай дарогі, калі загаварылі пра пабудову аэрадрома ў Тапалянах.

Мікалай Крэнтоўскі, солтыс Сушчы (у ёй 40 жыхароў), хацеў бы, каб на вуліцы пры кожнай хаце ў ягонай вёсцы была прыгожая лавачка. Адна ўжо ёсць. Паставіла яе сям'я, якая пераехала сюды жыць. Лавачка непадалёк ад прыпынку аўтобусаў ПКС.

У вялікай вёсцы Новая Воля (300 жыхароў) памалявалі трохсценную пачакальню на аўтобусным прыпынку. У цэнтры вёскі зараз завяршаюць рамонт святліцы.

У Кухмах солтыс Ванда Раманоўская шмат клапоціцца пра старэйшых людзей. Сюды прыязджае аўтакрама з харчовымі прадуктамі. Некаторым пажылым жыхарам трэба дапамагчы зрабіць пакупкі.

Солтыс Марыя Грыка з Бандароў клапоціцца пра парадак у пачакальні на аўтобусным прыпынку. У вёсцы разам з блокавым пасёлкам пражывае 250 асоб. Пры вуліцы стаяў сухі ясень ды разгалістая вярба. Зараз ясень ссеклі, а навісшыя над маставой галіны вярбы адсеклі.

**(яц)**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — італьянскую пагаворку.

1. перапончатакрылае насякомае з джалам = 12 _ 6 _ 14 _;
2. доўгі высокі земляны насып = 8 _ 9 _ 37 _;
3. дрэва з жалудамі = 19 _ 2 _ 21 _;
4. пустазелле з цёмна-ружовымі кветкамі і ядавітым насеннем (*Agrostemma githago*) = 27 _ 28 _ 13 _ 20 _ 29 _ 30 _;
5. трэці гук музычнай гамы = 11 _ 10 _;
6. прылада для рэзання з ляза і тронак = 5 _ 4 _ 3 _;
7. напрыклад КПСС = 25 _ 26 _ 22 _ 7 _ 23 _ 24 _;
8. жанеўская рака = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _;
9. уваходнае памяшканне ў сялянскай хаце малога Сымона = 1 _ 32 _ 31 _ 38 _;
10. абрадавае пітво з мёду і гатаванай вады = 34 _ 36 _ 35 _ 33 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | | | | | 31 | 32 |
| | | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Малдова, калгасніца, сашнік, сто, вестка, пеленг, бунт, Фларыда.

Рашэнне: **Ласкавае слова лепш дубіны**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 10.11 — 16.11

**(22.03. — 20.04.)** У адносінах у тваёй пары пагражаюць невялікія землятрусы. Бараноў народжаных на пераломе сакавіка і красавіка могуць чакаць нямілыя сюрпрызы ў сям'і. Пільнуй сэрца і кровазвароту, будзь асцярожны за рулём. Паявяцца нагоды на добрыя інвестыцыі, ды будзь асцярожным. 13-17.11. не абяцай зашмат, сам не вельмі давярай абяцанням, пільнуй кашалька.

**(21.04. — 21.05.)** Хапай нагоды. Трапна ацэніш сітуацыю. Твой козыр — прадпрымальнасць. Мер сілы на намеры. Баланс месяца будзе пазітыўны. У сітуацыі патрэбы папрасі дапамогі ва ўплывовых асоб.

**(22.05. — 22.06.)** З 11.11. лёгка заразіш іншых сваім энтузіязмам. Знакаміты час на падарожжы, ліставанне, пісанне кнігі ці вядзенне блога. Кінешся ў вір хатніх спраў і здзівішся, што аб шмат чым не ведаў. Хутка падгоніш хвасты. 9-13.11. можаш пазнаёміцца з Бараном або Казярогам, які ў будучыні паможа тваім блізкім. Не прапусці ўсяго што заробіш.

**(23.06. — 23.07.)** 10-14.11. дасканалая форма духу і цела, перамога над хваробай. 13-17.11. — найлепшы час на любоўныя сустрэчы. У кар'еры ўдачы, але не ганіся за пахваламі, а налягай на заданні. 10-14.11. калі нават штосьці занядбаеш, будзе табе даравана; знакамітыя, бліскучыя задумы.

**(24.07. — 23.08.)** Найбольшыя спадзяванні на павышэнне, развой талентаў, на якіх можаш зарабіць (10-14.11.). У пачуццях пастаў справы рубам, але не заматай іх пад дыван. Дома некаторыя справы могуць вырвацца з-пад кантролю, прычым без тваёй віны. Асабліва пільнуй, каму даручаеш рамонт і ключы. На працы таксама штосьці можа пасыпацца ў праекце. 13-17.11. вельмі дбай аб сваё горла.

**(24.08. — 23.09.)** У выпадку патрэбы, папрасі дапамогі ў сям'і, нават далейшай. Цёпла апранайся. Шукаючых працы чакае цікавая прапанова — трымай вушкі напераддзе, вочы шырока адкрытыя і вер у сябе. Часам варта сягнуць вышэй! Добры час на канкрэтныя дзеянні.

**(24.09. — 23.10.)** Рызыкоўныя знаёмствы, гвалтоўныя змены і благія задумы. У пары могуць вылезці наверх хаваныя грашкі (13-17.11.). Але добры час на рэгенерацыю арганізма. 10-13.11. — добрая арганізацыя працы і шматлікія бліскучыя ідэі. Не выдай толькі ўсяго што заробіш!

**(24.10. — 22.11.)** Добры час на рэабілітацыю, але дакладна прымяняй усе працэдуры і рэцэпты. У кар'еры, нават калі не можаш распрастаць крылаў, не адмаўляйся ад працы, якую маеш (дацэняць цябе ўрэшце!). У выпадку паездкі на працу за мяжу — удачы. 13-17.11. удачы, баявітасць і папулярнасць.

**(23.11. — 22.12.)** 10-14.11. прыліў энергіі і самаўпэўненасці. Шчасце ў інтарэсах і ў выйгрышы ў латарэі. У кар'еры магчымае павышэнне; усяго дапільнуеш, справішся на час. Разбудзіцца твая амбіцыя — адважся паказаць свае задумы кіраўніцтву, старайся быць бачным. Налягай на новыя праекты і нетыповыя прыёмы.

**(23.12. — 20.01.)** Рызыкоўныя прыёмы могуць аказацца трапнымі, маеш шанцы рэалізаваць свае амбітныя планы. Не плануй цяпер адпачынку, бо пры тваёй непрысутнасці могуць выплыць справы, якія заважаць на тваёй прафесійнай будучыні.

**(21.01. — 19.02.)** У пары вырашай праблемы разам. Самотныя Вадалеі хутчэй няхай не спадзяюцца, што цяпер знойдуць сваю другую палавінку. У сям'і не дай сабою маніпуляваць — будзь асертыўным і больш дбай аб сваё дабро. Не страць кантакту з асобай, на якой табе залежыць. Дбай аб важных рэляцыі, хаця 17.11. будзеш разгублены і нервовы. Калі шукаеш працу — паявіцца шмат цікавых прапаноў.

**(20.02. — 21.03.)** 10-13.11. рамантычны настрой. Маеш шанцы паказацца на працы, а твае задумы захопяць. Але ў ліставанні не ператалмяйся. 15-16.11. не паводзь сябе неразважна. У пары схочацца пасапернічаць з каханай асобай (твой выйгрыш — што я лепшы! — можа цябе салона каштаваць). Дома не будзь паліцыянтам.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 350 egz.

# Дзядоўская і бацькоўская задума




Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Бельск-Падляшскі, старыя праваслаўныя могілкі



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Бельск-Падляшскі, вайсковыя могілкі




Фота Аляксея ТРУБКІНА

Беласток, праваслаўныя могілкі




Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Бельск-Падляшскі, новыя праваслаўныя могілкі



Фота Аляксея ТРУБКІНА

Беласток, праваслаўныя могілкі




Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Бельск-Падляшскі, старыя праваслаўныя могілкі




Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Новае Ляўкова




Фота Аляксея ТРУБКІНА

Беласток, праваслаўныя могілкі




Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Біскупец

